ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (115) кастрычнік 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Размова з біскупам Юрыем Касабуцкім пра Касцёл з лідарам у выгнанні


Стар. 6-7

# Парафіяльны фэст і развітанне з пробашчам


Стар. 8

## Fratelli tutti: новая энцыкліка Папы Францішка


Стар. 14

## Поможем Сашеньке Якушенко!


Стар. 12

Духавенства і вернікі Віцебскай дыяцэзіі
Віцебск, 17.10.2020г.

## ДЭКРЭТ

**У сувязі з далейшым распаўсюджваннем эпідэміі каранавірусу COVID-19 і высокай лічбай захворванняў, якая ў восеньска-зімовы перыяд можа павялічыцца, а таксама беручы пад увагу клопат пра здароўе і жыццё жыхароў нашай краіны, пастанаўляю:**

1. Згодна з кан. 87 § 1, кан. 1245 і кан. 1248 § 2 Кодэксу Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла, удзяляю дыспенсу ад абавязку ўдзелу ў святой Імшы ў нядзелі і прадпісаныя ўрачыстасці вернікам старэйшага ўзросту, якія асаблівым чынам падатлівыя на інфекцыю каранавірусу, асобам з сімптомамі хваробы, дзецям і школьнай моладзі, а таксама асобам, што імі апякуюцца, і тым, хто адчувае боязь перад небяспекай заражэння.
2. Заахвочваю вернікаў, якія карыстаюцца дыспенсай, прыняць удзел у суботняй вячаровай святой Імшы або ў святых Імшах у іншыя дні.
3. Адначасова заахвочваю тых вернікаў, якім дазваляе стан здароўя і не перашкаджаюць іншыя важныя прычыны, напрыклад, абавязковая праца, да ўдзелу ў нядзельных і святочных Імшах і іншых набажэнствах.
4. Святары павінны паінфармаваць вернікаў аб значэнні дыспенсы, а таксама растлумачыць сэнс духоўнай камуніі і заахвоціць да яе практыкавання.
5. Пробашчы і адміністратары парафій павінны прыкласці ўсе намаганні для таго, каб у святынях і іншых месцах супольнай малітвы захоўваліся асноўныя правілы гігіены: настойліва прасіць вернікаў насіць ахоўныя маскі або шчыткі, пры ўваходзе ў святыню змясціць дэзінфекцыйныя сродкі, нагадваць аб неабходнасці захавання сацыяльнай дыстанцыі і рэспіраторнага этыкету.
6. Святары, якія ўдзяляюць святую Камунію вернікам, а таксама цэлебруюць іншыя сакраманты, знаходзячыся ў непасрэднай блізкасці да вернікаў, павінны карыстацца ахоўнымі маскамі і праводзіць дэзінфекцыю рук.
7. Пробашчы парафій, настаяцелі іншых структур Каталіцкага Касцёла, а таксама законных супольнасцяў і таварыстваў апостальскага жыцця ў Беларусі павінны разважліва і адказна падысці да арганізацыі розных евангелізацыйных і катэхетычных сустрэч, а таксама іншых мерапрыемстваў з пункту гледжання мэтазгоднасці іх правядзення падчас эпідэміі і з улікам магчымасці іх адмены або пераносу на пазнейшы час.
8. Нагадваю душпастырам пра абавязак заставацца на месцы свайго служэння і быць даступнымі для людзей, асабліва хворых і тых, хто мае патрэбу.
9. Гэтая пастанова абавязковая да яе адмены.

Усведамляючы выкліканыя пандэміяй каранавірусу складанасці як у штодзённым жыцці, так і ў выкананні рэлігійных практык, давяраю ўсіх вас апецы Маці Божай Браслаўскай і святога Язафата Кунцэвіча з надзеяй на іх заступніцтва перад Богам у прадухіленні гэтай хваробы і ад усяго сэрца блаславаю ў імя Айца і Сына, і Духа Святога. Амэн.

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

**Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by**



# У Мінск прыбыў Апостальскі нунцый арцыбіскуп Антэ Ёзіч

**У нядзелю, 11 кастрычніка, у Мінск прыбыў Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Ёзіч.**



У міжнародным аэрапорце беларускай сталіцы афіцыйнага прадстаўніка Папы Францішка ў нашай краіне сустрэлі супрацоўнікі Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь, прадстаўнікі мясцовага Касцёла і дзяржаўных уладаў.

Ад імя мясцовага каталіцкага епіскапату Апостальскага нунцыя Антэ Ёзіча на беларускай зямлі прывітаў Генеральны сакратар Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Юзаф Станеўскі.

Разам з ім прадстаўніка Папы сустракалі сакратар Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь кс. Макхэр Шамас, старшыня Каардынацыйнай групы вышэйшых настаяцеляў, дэлегатаў і прадстаўнікоў мужчынскіх і жаночых манаскіх інстытутаў і таварыстваў апостальскага жыцця ў Беларусі кс. Віктар Гайдукевіч SDB, а таксама супрацоўнік службы дзяржаўнага пратаколу Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

З аэрапорту Апостальскі нунцый Антэ Ёзіч накіраваўся ў Апостальскую нунцыятуру ў Мінску, якая з'яўляецца дыпламатычнай місіяй Святога Пасаду ў Беларусі і рэзідэнцыяй прадстаўніка Папы ў нашай краіне.

21 мая Папа Францішак прызначыў новым Апостальскім нунцыем у Беларусі арцыбіскупа-наміната Антэ Ёзіча.

16 верасня Антэ Ёзіч, тытулярны біскуп Цысы, прызначаны Апостальскім нунцыем у Рэспубліцы Беларусь, прыняў біскупскае пасвячэнне ў нядаўна пабудаваным касцёле Святой Сям'і санктуарыя Маці Божай Астраўной у Соліне (Харватыя).

Сакрамант пасвячэння ў ступені епіскапату Антэ Ёзічу ўдзяліў Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы Францішка кардынал П'етра Паралін. Галоўным супасвячальнікам быў арцыбіскуп Марын Барышыч, пастыр Спліт-Макарскай архідыяцэзіі, з якой і паходзіць Антэ Ёзіч.

*Catholic.by*
*Фота: Апостальская нунцыятура ў Рэспубліцы Беларусь*



# Дзяржсакратар ЗША зноў заклікаў беларускія ўлады дазволіць арцыбіскупу Кандрусевічу вярнуцца на радзіму

**13 кастрычніка дзяржсакратар ЗША Майк Пампеа ў паведамленні для прэсы заклікаў беларускія ўлады дазволіць кіраўніку каталіцкага епіскапату Беларусі арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу вярнуцца на радзіму.**

Тэкст паведамлення Майка Пампеа падае Каталіцкае інфармацыйнае агенцтва KAI.

"Мінула ўжо больш за 40 дзён з таго часу, як беларускія ўлады адмовілі свайму грамадзяніну, каталіцкаму арцыбіскупу Кандрусевічу зноў уехаць у краіну, памылкова мяркуючы, што рэлігійныя лідары не павінны публічна выказваць сваю нязгоду з несправядлівасцю. Іх дзеянні самі па сабе з'яўляюцца несправядлівасцю і парушаюць рэлігійную свабоду. Вера не абмяжоўваецца толькі прыватнай сферай.

Я заклікаю беларускія ўлады выправіць гэтае зло і даць магчымасць іерарху Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі вярнуцца ў сваю краіну".

Нагадаем, што дзяржсакратар ЗША Майк Пампеа адным з першых адрэагаваў на незаконную забарону арцыбіскупу Кандрусевічу вярнуцца на радзіму, змясціўшы ў сваім акаўнце ў Твітары запіс у падтрымку кіраўніка беларускага каталіцкага епіскапату.

*Catholic.by*

# Апостол Евхаристии Карло Акутис

**В Италии 10 октября Католическая Церковь причислила к лику блаженных 15-летнего компьютерного гения Карло Акутиса, умершего в 2006 году.**

Беатификация прошла в святилище Отречения святого Франциска от земных благ, где мощи Карло Акутиса покоятся с апреля 2019 года. В связи с этим событием "Мастерская коммуникации" в сотрудничестве с платформой VatiVision выпустила четырехсерийный фильм об этом юном подвижнике – "Отныне назовём его блаженным". Он основан на аудио- и видеозаписях семьи Карло Акутиса, а также на свидетельствах, в том числе постулатора процесса Николы Гори и настоятеля миланского прихода Санта-Мария-Сегрета монсеньора Джанфранко Помы.

В первой части мини-сериала рассказывается о том, как в самые ранние годы сердце мальчика воспламенилось любовью к Евхаристии. Он ведет совершенно обычную для ребенка жизнь: ходит в школу, играет, он отнюдь не похож на "святошу". И при этом его особенно притягивает Иисус в Евхаристии.

Первое Причастие Карло принял в возрасте семи лет, что для Италии исключение: нужно было получить специальное разрешение от церковных властей. С того момента ежедневное причащение становится для мальчика неотъемлемой частью повседневной жизни. Когда учеба не позволяла ходить на Мессу каждый день, Карло практиковал духовное причащение.

Еще одна духовная практика, которая постоянно сопровождала Карло Акутиса, – это Святой Розарий. Своей маме мальчик говорил, что Богородица – это единственная женщина в его жизни. Ему же принадлежат и слова: "Розарий – это самая короткая лестница в небеса".

Уже в 14 лет Карло решает быть катехизатором в миланском приходе Санта-Мария-Сегрета и ведет подготовку ребят к Миропомазанию.

Главным аспектом духовности новоблаженного можно назвать нерушимую веру в присутствие Иисуса в евхаристической частице. Эта вера побудила его распространять с помощью Интернета "источник благодати, который перестали использовать", как говорил сам Карло Акутис. Подросток передавал любовь к Евхаристии через свои способности в области информатики, и его можно назвать первым прославленным Церковью подвижником "цифрового поколения". Он создал международную онлайн-выставку, посвященную признанным Церковью евхаристическим чудесам. Карло был свидетелем и апостолом Евхаристии, поскольку любовь к ней преображалась в конкретные поступки для нуждающихся, для бедных и бездомных, живших в его районе. Мальчик относил им еду и отдавал деньги, которые получал на карманные расходы.

"Евхаристия – это моя автотрасса к небесам", – утверждал Карло Акутис. В мини-сериале звучат и другие его фразы, ставшие крылатыми, например: "Все рождаются оригиналами, но многие умирают как ксерокопии".

Важную роль в жизни новоблаженного играло и Таинство Примирения. "Почему, – говорил он, – люди так заботятся о красоте своего тела, а красота души их не волнует?" "Единственное, чего нужно бояться, – это грех", – повторял подросток.



Даже свою скорую смерть от лейкемии, которая наступила 12 октября 2006 года в Монце, он считал даром от Бога и жертвовал свои страдания за Папу и за Церковь.

Новопрославленный подвижник оставил после себя мощное послание сверстникам: о том, что в нравственных принципах не может быть полумер и компромиссов, что нужно быть внимательными и не позволять коммерческим, общественным и политическим интересам управлять собой как марионеткой. Тем, кто разочарован жизнью, наполнен страхом, кто страдает, одинок и всеми оставлен, Карло Акутис указывает на Евхаристию, предлагая принять в свою жизнь Иисуса Христа и Его Евангелие.

Карло можно назвать апостолом во всех сферах прожитой им жизни, жизни обыкновенного подростка: апостолом в семье, в школе, в спорте, на досуге, в путешествиях и в играх. Блаженный Карло Акутис – это подлинный свидетель истинности притчи о виноградной лозе: он всегда старался питаться живительным соком Господа Иисуса, чтобы приносить обильные плоды.

***Ольга Сакун,***
*русская редакция Vatican News*

# Касцёл, культура і навука

***"Хвала Хрысту! Нядаўна ў мяне адбылася размова з адной асобай, якая даводзіла, што Каталіцкі Касцёл – гэта арганізацыя, каторая "дыхае" Сярэднявеччам і распаўсюджвае цемрашальства. Мяне як верніка такія выказванні абураюць і зневажаюць. Прашу рэдакцыю "Каталіцкага Весніка" закрануць у нумары тэму ўплыву Каталіцкага Касцёла на развіццё культуры і навукі. Дзякуй вялікі".***

***Павел***

– Шаноўны Павел! Ярлыкі цемрашальства на Каталіцкі Касцёл вешаюць людзі, якія якраз-такі вельмі слаба ведаюць сусветную гісторыю, не цікавяцца навукай і пра культуру маюць аднабокае ўяўленне. Ужо тое, што мы для публікацыі гэтага артыкула карыстаемся кірыліцай, заслуга якраз дзеячаў Касцёла – святых Кірыла і Мяфодзія. Іх мы ўспамінаем у літургіі як апекуноў Еўропы. І нездарма. Праз іх дзейнасць Божае слова стала даступным для славянскіх народаў і на тэрыторыі Усходняй Еўропы стала развівацца пісьменства. На працягу стагоддзяў Касцёл быў мецэнатам мастацтва і рухавіком архітэктурных ідэй. Сёння мы захапляемся шэдэўрамі сакральнага будаўніцтва, скульптурамі і карцінамі, многія з якіх паўсталі менавіта ў Сярэднявеччы. Імёны Мікеланджэла і Леанарда да Вінчы не патрабуюць тлумачэнняў. Талент гэтых людзей змог раскрыцца праз дапамогу і апякунства Каталіцкага Касцёла.

У музыцы варта згадаць імя знакамітага кампазітара Антоніа Вівальдзі, які жыў у XVIII стагоддзі і быў каталіцкім святаром. Напісаў 90 опер і 517 канцэртаў. Яго твор "Чатыры пары года" з'яўляецца самым вядомым у музыцы па сённяшні дзень.



**Каталіцкі святар і кампазітар Антоніа Вівальдзі (1678-1741).**

Многія са сваіх твораў Моцарт, Бетховен і Бах прысвячалі рэлігійнай тэматыцы, каб раскрыць больш поўна праз музыку сутнасць евангельскага паслання. Сёння мы захапляемся асаблівым жанрам музычнай творчасці – Імшой. Венскі кампазітар Франц Ёзэф Гайдн напісаў 14 музычных імшаў. Да найбольш знакамітых адносяць Высокую Імшу сі-мінор Баха, Вялікую Імшу Моцарта, Урачыстую Імшу Бетховена і Гранскую Імшу Ферэнца Ліста.

Развіццё сучаснай навукі немагчыма было б уявіць, калі б не навуковая дзейнасць хрысціян у Сярэнявеччы, ды і пасля яго. Першыя ўніверсітэты з'явіліся акурат на месцы былых катэдральных школаў. Прыкладам могуць быць Балонскі ўніверсітэт (год заснавання – 1088) ці ўніверсітэт у Парыжы (год заснавання – 1208). Вера ніколі не супярэчыць навуцы. Яна проста адказвае на іншыя пытанні. Калі навука спрабуе даць адказ на пытанні што? дзе? як?, то вера адказвае на пытанні чаму? навошта? Чаму існуе сусвет, навошта патрэбны чалавек, у чым сэнс існавання? Гэта ўсё сфера адказнасці веры і рэлігіі. Тут дарэчы было б прывесці імёны некаторых выдатных даследчыкаў і навукоўцаў, якія дасягнулі поспехаў у навуковай дзейнасці, будучы адначасова шчырымі вернікамі Каталіцкага Касцёла.



**Скульптура "П'ета" аўтарства Мікеланджэла ўяўляе сабой Маці Балесную, Якая трымае на руках Божага Сына пасля ўкрыжавання. Мікеланджэла стварыў гэты шэдэўр у 1499 годзе з мурмару, калі меў 24 гады.**

**Уільям Окам (1285-1347)**



Англійскі філосаф, манах францішканскага ордэна. Адзін з найвялікшых логікаў усіх часоў. Бацька сучаснай эпістэмалогіі – навукі пра веды. Развіў прынцып мыслення, які атрымаў назву "брытва Окама". Ён фармулюецца наступным чынам: "Не варта памнажаць сутнасці без неабходнасці". Гэты прынцып азначае, што калі трэба растлумачыць нейкую з'яву, то чым менш новых паняццяў, фактаў і лагічных крокаў мы для гэтага выкарыстоўваем, тым лепш.

**Кардынал Мікалай Кузанскі (1401-1464)**



Найбуйнейшы нямецкі мысляр XV стагоддзя, вучоны-энцыклапедыст, матэматык, каталіцкі кардынал.

У сферы астраноміі адным першых выказаў ідэю, што Сусвет бясконцы і не мае цэнтра ні на Зямлі, ні на Сонцы, а таксама пра тое, што ўсе свяцілы рухаюцца і складаюцца з рэчываў, падобных да зямных (а не з "вечнага эфіру", як лічылі паслядоўнікі Арыстоцеля). Верагодна, касмалагічныя працы Мікалая Кузанскага паўплывалі на погляды Каперніка і Галілея. Ён напісаў матэматычныя трактаты "Аб квадратуры круга" і "Аб сувымярэнні прамога і крывога", гэта значыць аб выпрастанні акружнасці. Працуючы ў сферы оптыкі, вынайшаў рассейваную лінзу для акуляраў.

**Філіп Матэус Ган (1739-1790)**



Нямецкі святар і вынаходнік. Вывучаў тэалогію ў Цюбінгенскім універсітэце, а таксама захапляўся матэматыкай і механікай. Распрацаваў машыну, якая перадавала рух нябесных целаў, што прынесла яму шырокую вядомасць у Германіі. Цікавіўся працамі матэматыка Лейбніца і ўслед за ім адным з першых у свеце вынайшаў падліковую машыну.

Пасля прац над падліковай машынай вярнуўся да вылічальнай тэхнікі. Распрацоўваў новыя гадзіннікавыя механізмы і астранамічныя прыборы.

**Грэгар Мендэль (1822-1884)**



Аўстрыйскі біёлаг і батанік, аўтар матэматычных законаў генетыкі і ў той жа час – святар, а пасля настаяцель Аўгусцінскага абацтва Святога Тамаша ў Старэ Брно (Чэхія).

Пачаў свае даследаванні ў садзе пры кляштары. Яму ўдалося сфармуляваць асноўныя законы, што тлумачаць, якім чынам жывыя арганізмы ўспадкуюць знешнія прыкметы сваіх бацькоў. У нашы дні тры закона Мендэля вывучаюць у сярэдняй школе.

У 1868 годзе Мендэля абралі абатам Старабрненскага кляштара, і ён перастаў займацца біялагічнымі даследаваннямі. Толькі ў пачатку XX стагоддзя навукоўцы-генетыкі зноў адкрылі законы, якія за тры дзесяцігоддзі да іх ужо вывеў Мендэль.

**Жорж Лемэтр (1894-1966)**



Бельгійскі астраном і матэматык, каталіцкі святар. Лемэтр – герой Першай сусветнай вайны, узнагароджаны Ваенным Крыжам. Пасля вайны ён вывучаў ва ўніверсітэце матэматыку, фізіку, астраномію і тэалогію. У 1923 ужо ў сане абата працягнуў адукацыю ў Кембрыджы, а пазней займаўся астраноміяй у Гарвардзе (ЗША). У 1960 г. Лемэтра абралі прэзідэнтам Папскай акадэміі навук. Асноўны навуковы ўклад Лемэтр унёс у астрафізіку і касмалогію. Ён першым сфармуляваў тэорыю Сусвету, які пашыраецца, і яго зараджэнне з "першапачатковага атама". Пазней тэорыя была названая "Вялікім выбухам", і менавіта пад гэтай назвай вядомая ў навуцы сёння.

Гэта, зразумела ж, не поўны пералік знакамітых мысляроў, якія былі адначасова шчырымі вернікамі.

***За доўгую гісторыю прысутнасці Касцёла ў свеце з'явілася шмат выдатных місіянераў, філосафаў, музыкантаў і навукоўцаў, якія прычыніліся да распаўсюджвання хрыс-ціянства ў самых далёкіх краінах.***

Ды і сама Еўропа не была б сёння такой свабоднай, дзе шануюцца правы чалавека і захоўваюцца прынцыпы роўнасці і дэмакратыі, калі б не асветніцкая дзейнасць Касцёла ў мінулым. У нас жа, людзей XXI стагоддзя, ёсць заданне старанна і аб'ектыўна вывучаць мінулае, пазбягаючы аднабаковых і хлуслівых ярлыкоў, якія нічога не маюць супольнага з праўдай.

***Кс. Віктар Місевіч***

# У Лідзе развіталіся з кс. Юзафам Ганьчыцам – “будаўніком святыні і архітэктарам чалавечых сэрцаў”




16 кастрычніка пры касцёле Святой Сям'і ў Лідзе адбылося пахаванне кс. каноніка Юзафа Ганьчыца, які дваццаць чатыры гады быў пробашчам гэтай парафіяльнай супольнасці.

■ кс. Юрый Марціновіч, *Grodnensis.by*

У святыні, якая была пабудавана дзякуючы стараннем спачылага, сабраліся святары, сёстры законныя і вернікі, якім з вялікай адданасцю служыў кс. Ганьчыц. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы з Ліды.

Эўхарыстыю ў інтэнцыі памерлага ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У ёй удзельнічалі дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB.

### Чалавек дыялогу

У гаміліі біскуп Станеўскі, які быў аднакурснікам спачылага, разам з ім прымаў сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітэрату і ведаў яго на працягу трыццаці гадоў, прапанаваў прыгледзецца да жыццёвага шляху кс. Ганьчыца.

Іерарх асабліва падкрэсліў, што ўсе гады служэння ў парафіі кс. Юзаф вылучаўся вялікім клопатам пра кожнага чалавека. Таму, пабудаваўшы святыню ў маладым мікраёне Ліды, ён пачаў будаваць жывы Касцёл, які складаецца з чалавечых сэрцаў.

Біскуп заўважыў, што “за гэты час святар праводзіў дыялог з усімі: з дзецьмі, моладдзю, міністрантамі, вёў усе даручаныя яму сем'і да Бога”.

Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі адзначыў, што сям'я была ў цэнтры святарскага служэння кс. Ганьчыца. Таму ён шмат часу прысвячаў таксама служэнню сем'ям, аказанню ім дапамогі праз слова і канкрэтныя ўчынкі.

На заканчэнне Імшы было прамоўлена шмат добрых слоў пра спачылага, які, варта спадзявацца, назаўсёды застанецца ў сэрцах людзей, каторых ён сустрэў на шляху жыцця.

### Клапатлівы душпастыр

Слова ад біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, які не змог прысутнічаць на пахаванні, прачытаў біскупскі вікарый Гродзенскага рэгіёна кс. канонік Ян Кучынскі.

Іерарх падкрэслівае, што кс. Юзаф “пакінуў у нашых сэрцах вобраз душпастыра, які клапоціцца пра збаўленне даручаных яму парафіян, заўсёды даступнага, поўнага айцоўскай дабрыні, які ўмеў знайсці для кожнага крыху часу, слова, каторае падбадзёрвае, добрую ўсмешку”.

Слова ад Генеральнай настаяцельніцы Кангрэгацыі Дачок Марыі Беззаганнай, супольнасці, якая шмат гадоў супрацоўнічае з Лідскай парафіяй, прачытаў кс. канонік Уладзімір Гуляй. Настаяцельніца адзначае, што “ў гэты дзень уся супольнасць злучаецца ў сумесных малітвах у інтэнцыі спачылага, узносіць да Бога найперш вялікую падзяку за прыклад жыцця і служэння Святара вялікага духоўнага фармату, будаўніка прыгожай святыні, але перш за ўсё – архітэктара чалавечых сэрцаў”.

### Сябар Польшчы і Беларусі

Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Яраслаў Ксёнжэк прачытаў слова ад Дзяржаўнага сакратара канцыляры Прэзідэнта Польшчы Адама Квяткоўскага, які падкрэслівае, што спачылы быў сапраўдным сябрам Польшчы і Беларусі, вылучаўся вялікім служэннем Богу і іншаму чалавеку, а ў сэрцы польскага народа застанецца як верны, адданы і харызматычны душпастыр.

Сястра Кацярына Бучынская, якая служыць у Лідскай парафіі, адзначыла, што “гэтая зямля будзе менш прыгожай, бо на ёй не стала ксяндза Юзафа”.

Біскуп Юрый Касабуцкі перадаў родным памерлага і вялікай парафіяльнай сям'і спачуванні ад Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які знаходзіцца за межамі краіны і не можа вярнуцца па незалежных ад яго прычынах.

Генеральны вікарый архідыяцэзіі падкрэсліў, што кс. Юзаф быў “чалавекам моцнай веры, якой дзяліўся з іншымі, з радасцю і ўсмешкай на твары”.

У гэты дзень прагучала яшчэ шмат добрых слоў пра спачылага, які за 24 гады служэння ў Лідзе сапраўды пакінуў глыбокі след у сэрцах парафіян. Вернікі адзначаюць, што ён быў для іх айцом, братам, сябрам, духоўным кіраўніком, спаведнікам…

### Назаўсёды ў сэрцах

Не дзіўна, што ў дзень пахавання развітацца з ксяндзом прыйшло шмат людзей. Некаторыя прыехалі здалёк. Яны прыбылі з падзякай Богу за яго святарскія рукі і сэрца, за ўсё дабро, якое ад яго атрымалі.

На заканчэнне ўсе ўдзельнікі пахавальнай літургіі згодна з традыцыяй, якую захоўваў у дзень сваіх імянін кс. Ганьчыц, а на гэты раз – у дзень яго нараджэння для неба, атрымалі цукеркі, якімі іх пачаставалі міністранты парафіі.

Ксёндз Юзаф быў пахаваны ля касцёла, той святыні, якую з вялікай руплівасцю ўзводзіў для Пана, каб вернікі мелі свой малітоўны дом.

Парафіяне глыбока вераць, што іх святар будзе дапамагаць ім цяпер з неба. А яны, ідучы ў святыню, будуць спыняцца ля яго магілы, узносіць за яго малітвы і дзякаваць за дабро, якое атрымалі праз яго адданае служэнне.

Ксёндз-канонік Юзаф Ганьчыц нарадзіўся 3 ліпеня 1960 г. Паходзіў з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата ў Сапоцкіне.

Атрымаў сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітэрату 17 чэрвеня 1995 года з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча ў катэдры св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Стаў разам з сённяшнім дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім адным з першых выпускнікоў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Пасля пасвячэння быў прызначаны вікарыем парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах. З 10 ліпеня 1996 г. да смерці быў пробашчам новаўтворанай парафіі Святой Сям'і ў Лідзе. Дзякуючы яго стараннем пабудавана новая парафіяльная святыня.

За час яго служэння ў Лідскай парафіі створана шмат малітоўных груп. Багата ўвагі і часу ён прысвячаў выхаванню дзяцей і моладзі, фармацыі сем'яў. Таксама пры парафіі актыўна дзейнічае каталіцкая харызматычна-евангелізацыйная супольнасць “Gloriosa Trinita”, духоўным правадніком якой таксама быў кс. Юзаф Ганьчыц.

У 2003 г. ён скончыў вывучэнне тэалогіі сужэнства ва Універсітэце кардынала Стэфана Вышынскага, а ў 2007 г. – катэхетычна-пастаральнае паслядыпломнае навучанне ў Люблінскім каталіцкім універсітэце ў Польшчы.

Сёлета кс. Ганьчыц адзначыў 60-годдзе і 25-годдзе прыняцця прэзбітэрскага пасвячэння.

Адышоў ксёндз Юзаф у вечнасць 13 кастрычніка ў лідскай бальніцы праз ўскладненні, выкліканыя каранавіруснай інфекцыяй.



# Адышоў да Пана кс. Тадэвуш Кароляк

**Віцебская Курыя са смуткам паведамляе, што 8 кастрычніка памёр святой памяці кс. пралат Тадэвуш Кароляк.**



Кс. Тадэвуш нарадзіўся 5 верасня 1933 года. У 1953 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Варшаве. Пасля яе заканчэння быў пасвечаны ў святары кардыналам Стэфанам Вышынскім. Пасля душпастырскай працы ў Польшчы выказаў жаданне папрацаваць у Беларусі. З 2000 па 2009 гады быў пробашчам парафіі Перамянення Пана ў Германавічах (Шаркаўшчынскі дэканат).

Дзякуючы яго намаганням была адноўлена плябанія і зроблены ўнутраны рамонт касцёла. Вернікі і святары Віцебскай дыяцэзіі будуць памятаць ксяндза Тадэвуша як высокаадукаванага, дасведчанага і чулага святара.

Даручаем асобу кс. Тадэвуша Божай Міласэрнасці. Няхай Пан сам будзе яго ўзнагародай у Нябесным Валадарстве.

# Как справиться с последствиями насилия?

**Любое насилие – сексуальное, физическое, психологическое – это грубое нарушение личностных границ человека.**

**Марина Ткач**, *психолог*



У каждого из нас есть определённые границы, наше внутреннее психологическое пространство, в которое мы никого не пускаем, либо впускаем только очень близких и надёжных людей. Так вот, насилие связано с нарушением этих самых границ. Факт насилия – это событие, которое выходит за пределы обычного человеческого опыта. Поэтому отработанных механизмов управления и овладения последствиями этого события у нас чаще всего нет. Цель нашей нервной системы после этого воздействия – восстановить свою саморегуляцию.

Практические методы психологической работы по преодолению последствий насилия основаны на теории стресса Ганса Селье: если реакция нервной системы человека, пережившего то, что выходит за рамки привычного, возвращается к первоначальному уровню, то есть если человеку удаётся восстановиться, то тогда это событие становится важным опытом этого человека. Оно входит в его память, оно становится основой для выработки множества полезных выводов и убеждений. И в этом отношении утверждение немецкого философа Ницше о том, что "всё, что нас не убивает, делает нас сильнее" оказывается совершенно верным при оценке механизма работы нашей психики.

Но, как правило, с событиями, выходящими за рамки обычного для него опыта, человек сам совладать не может. И в его нервной системе остается некоторое травматическое возбуждение, которое не гаснет и уходит в область подсознания.

**Как можно себе помочь в такой ситуации**

Отмечу, что нижеперечисленные советы (давайте назовем их так) могут послужить лишь первоначальной основой для совладания с травмирующей ситуацией, а именно пережитым насилием. Это определённые "инструменты", которые помогут поддерживать себя на плаву до тех пор, пока у вас не появится желание и возможность обратиться к специалисту.

**Не уничтожайте себя.** Чувство вины и уничтожение себя – это основная реакция в ситуации насилия. Травма, нанесенная извне, заставляет человека в своих собственных глазах сильно себя принизить и даже уничтожить. В данной ситуации порой бессмысленно отвечать на вопрос: "Почему это со мной случилось?" Куда более рациональным будет вопрос: "Что мне с этим делать?" Только делать что-то нужно не с самой ситуацией насилия, а со своей реакцией на случившиеся события. Нужно разделить себя и свою жизнь на "до" и "после", на себя и факт насилия или того, кто его совершил. Одни эти действия не решат проблему полностью, но в какой-то мере они могут дать новое направление мыслей и отношения к случившемуся.

**Не пытайтесь стереть из памяти травмирующее событие.** Как бы странно это ни звучало, но пытаться как можно быстрее забыть факт насилия – не самый лучший способ с ним справиться. Некоторым людям это действительно удаётся, они как бы "отрезают" эту часть своей жизни от сознания. И это именно тот первый и порой решающий шаг на пути к неосознанной жизни. Человек в таком случае становится некритичен, и все дальнейшие свои неприятности он будет очень легко объяснять внешними причинами. Какое бы нелепое объяснение он ни придумал, оно будет приниматься с одной лишь целью – чтобы ничего не напоминало о боли.

**Найдите в себе силы говорить о случившемся.** Да, говорить страшно. Да, вас могут обидеть ещё сильнее, оскорбить, но рассказ своим близким или специалисту является адекватной реакцией по преодолению последствий травмы. Это, во-первых, частично даёт разрядку "замороженной" энергии. Во-вторых, формирует уровень высокого доверия и понимания между людьми. Если этого не сделать, то травма будет по-прежнему очень сильно на вас влиять. Дайте возможность окружающим вас людям вам помочь в преодолении физической, психологической боли, которую вы испытали или до сих пор испытываете.

**Вернуть доверительные отношения с людьми.** Травмированная личность в большинстве случаев ведёт себя с другими людьми осторожно, сохраняет приветливость, которую диктуют рамки приличия, но достаточно формально и отстраненно. И причина такого поведения – ожидания, что тебе вновь сделают



больно. Важно понять, что отстраненность порождает одиночество, депрессию, немотивированную, и порой, неконтролируемые вспышки агрессии. А это, в свою очередь, создаёт возможность для повторного травмирования личности. Помните, что невозможно снова испытать радость в одиночестве, настоящая радость может возникнуть только в глубоких и доверительных отношениях с другими людьми. Человек – существо социальное, поэтому находиться в обществе других людей – природная необходимость.

**Не думайте, что вы сходите с ума.** Даже если человеку удаётся справляться с переживанием травмирующего события, в глубине души он чувствует, что с ним что-то не так. Он начинает сомневаться, задавать себе множество вопросов, на которые сложно найти ответы. И здесь страх сойти с ума не заставляет себя долго ждать. Помните и поймите одну вещь: это заблуждение, что человек сойдёт с ума, если будет вспоминать то, что пережил. Скорее, сойти с ума можно, если ничего не предпринимать, не изменяться и продолжать дальше собирать в "копилку" своей жизни всё новые травмы.

**Любите себя.** Эту фразу каждый понимает по-своему. Но какой бы смысл ни вкладывался в неё, вам нужно любить себя вопреки всему. Факт насилия абсолютно не означает, что вы плохой человек и в вас нет ничего, за что можно и нужно себя любить, просто так случилось.

**Не забывайте про веру в Бога и молитву.** Как-то Папа Франциск сказал о том, что "молитва – это диалог с Богом во всех моментах и обстоятельствах жизни. Через молитву мы передаём свои заботы и просьбы в руки Бога, мы доверяем Ему, потому что Он знает, что нам нужно, и даст то, что будет хорошо для нас. Бог может ответить не так, как мы ожидаем. Тем не менее, верующий человек – спокойный человек, потому что уверен, что Бог любит его и действует на его благо".

Добавлю только одно: ни месть, ни обида, ни жалость к себе не помогут пережить или остановить насилие. Единственно возможный путь преодоления данного травмирующего события – это терпение, выдержка, смелость, любовь и к себе в том числе, молитва как способ доверия.

**Берегите себя и своих близких.**

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Біскуп Касабуцкі: “Мітрапаліт Кандрусевіч мог зрабіць



**Біскуп Юрый Касабуцкі на фэсце ў Будславе, 2020 год.** Фота Леаніда Юрыка

Біскуп Юры Касабуцкі ў інтэрв’ю “Свабодзе” расказвае, як жыве Касцёл з лідарам у выгнанні, адказвае на пытанні пра вяртанне мітрапаліта Кандрусевіча ў Беларусь і магчымыя ўмовы ўлады, адказвае на абвінавачванні ва ўмяшанні Касцёла ў палітыку і распавядае, як можна вырашыць грамадска-палітычны крызіс у Беларусі.

■ **Дзмітрый Гурневіч**, *Радыё Свабода*

### “Падчас набажэнстваў злучаемся з мітрапалітам анлайн”

**– Ваша эксцэленцыя, ужо некалькі тыдняў нічога невядома пра мітрапаліта Кандрусевіча. Раскажыце, дзе ён цяпер, чым займаецца і як сябе адчувае?**

– Гадзіну таму я меў з ім кантакт. У нас акурат была канферэнцыя епіскапату. Такія пасяджэнні ў нас адбываюцца два разы на год. Сёння яно адбылося ў іншым фармаце. Уладыка Тадэвуш быў з намі анлайн. Ён цяпер знаходзіцца ў Польшчы, недалёка ад Беластока, у парафіі свайго сябра.

**– Ці вядома нешта пра яго вяртанне ў Беларусь? Арцыбіскуп Галахер, сакратар Ватыкана па сувязях з замежнымі дзяржавамі, фактычна міністр замежных спраў, нядаўна выказаўся даволі скептычна пра вяртанне мітрапаліта ў Беларусь.**

– Мы тут, на месцы, глядзім на гэта больш аптымістычна. Мы сёння не акрэсліваем ані даты, ані часу. Мы разумеем, што гэта палітычная гульня і што так хутка яна не скончыцца. Але мы ўпэўненыя ў тым, што нашая малітва будзе прыносіць свой плён і мітрапаліт абавязкова вернецца. Калі? Мы не загадваем. Увесь час ён духоўна злучаецца з намі, мы ў пастаянным кантакце. Дзякуй Богу, магчымасцяў сёння вельмі шмат, каб быць у лучнасці. Ён піша таксама да нас свае слова. Бывае, падчас набажэнстваў, мы злучаемся з ім пры дапамозе праграм, і ён мае магчымасць убачыць вернікаў у касцёле. І вернікі таксама могуць убачыць свайго мітрапаліта. Гэта цікавы досвед для нашага Касцёла.

**– Дзяржсакратар Галахер сказаў, што мітрапаліту былі высунутыя непрымальныя ўмовы для вяртання. Вам нешта пра гэта вядома?**

– Неабходна па сутнасці абвергнуць гэтую інфармацыю. Арцыбіскуп Галахер не сказаў, што былі высунутыя пэўныя ўмовы. Ён сказаў, што, магчыма, могуць быць высунутыя ўмовы, якія будуць непрымальнымі. На сённяшні дзень гэтага яшчэ няма. Мы разумеем, што нам не скажуць: “Прабачце нам. Мы зрабілі памылку, і вы прыедзьце”. Але сёння пакуль умоваў не ставяць. Мы разумеем, што ўсе гэтыя справы з пашпартам, з натуралізацыяй – палітычная гульня. Але ў чым яна праявіцца, нам пакуль складана сказаць.

### “Мы не можам сказаць, што гвалту не было, што мы сляпыя, нямыя і нічога не бачым”

**– Я чуў думкі ад католікаў, што, магчыма, мітрапаліту Кандрусевічу не варта было ўмешвацца ў палітыку і тады б усё было добра. Што вы ім адкажаце?**

– А ён і не ўмешваўся ў палітыку.

**– Ён выказваўся пра выбары, пра міліцыю, хацеў сустрэчы з міністрам Караевым і сустрэўся з ім.**

– Што значыць умяшанне ў палітыку? Гэта адносная справа. Умяшанне ў палітыку – гэта канкрэтныя дзеянні. У дадзенай сітуацыі мітрапаліт Кандрусевіч, як і кожны нармальны грамадзянін, асуджае гвалт, які меў месца ў нашай краіне. Мы не можам сказаць, што гвалту не было, што мы сляпыя, нямыя і нічога не бачым. Ён прапанаваў свае сродкі дапамогі ў пачатку нейкага дыялогу дзяржаўнай улады з грамадствам. Мы ніколі не казалі, што мы кагосьці падтрымліваем або кагосьці не падтрымліваем, не называлі ніякіх прозвішчаў. Мы не выказвалі палітычных меркаванняў.

Мы заахвочваем да захавання агульначалавечых каштоўнасцяў, на якіх павінна базавацца кожнае жыццё, кожная дзяржава. Магчыма, мітрапаліт і застаўся б, калі б сядзеў ціха і зрабіў выгляд, што чалавек нічога не бачыць і не чуе. Але як тады жыць і куды падзець сумленне? Вось гэта пытанне.

**– Наколькі ўскладнілася праца Касцёла пасля таго, як мітрапаліт не змог вярнуцца на Радзіму?**

– Мы карыстаемся сучаснымі тэхналогіямі. Усё як раней, мітрапаліт працягвае кіраваць нашым Касцёлам. На працягу ўсёй нашай двухтысячагадовай гісторыі хрысціянства, калі адбываецца пераслед, людзі пачынаюць салідарызавацца і актывізавацца. Сёння мы бачым, што мы больш салідарныя, праяўляем усё больш еднасці. Мы падтрымліваем мітрапаліта, ён падтрымлівае нас. Тут, на месцы, мы больш паміж сабою сустракаемся і размаўляем. Мы бачым неймаверную салідарнасць людзей розных канфесіяў. Няма нічога дрэннага, чаго Бог неператварыў бы ў дабро. Мы бачым дрэнную сітуацыю, але мы назіраем і салідарызацыю і католікаў, і праваслаўных, і пратэстантаў. Мы становімся бліжэйшымі. Нават калі ў горадзе, недзе ў краме, я сустракаюся з людзьмі, то заўважаю, што людзі становяцца іншымі. Гэтаксама і ў касцёле, мы сталі бліжэй адно да аднаго.

### “Гэта было дзеля таго, каб нас запалохаць, маніпуляваць намі і прамыць нам мозг”

**– Да гэтай пары Папа Рымскі Францішак не выказаўся, назваўшы імя мітрапаліта Кандрусевіча і падтрымаўшы яго публічна. У некаторых людзей гэта выклікае пытанні: чаму ён гэтага не зрабіў?**

– Варта ўнесці яснасць. Папа Рымскі не прамовіў імя мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча дзесьці ў публічных выступах. Але гэта не азначае, што ён яго не падтрымаў і што не было ніякіх дзеянняў. Гэта было б крыху няправільна. Так, нам бы, можа, і хацелася, каб Папа Рымскі на плошчы Святога Пятра прамовіў, сказаўшы словы “Беларусь”, “Кандрусевіч” ці нешта іншае. Але не толькі ў гэтым праяўляецца дзейнасць. Сам прыезд арцыбіскупа Галахера адбыўся па накіраванні Папы Рымскага, бо арцыбіскуп Галахер – гэта трэцяя асоба ў Каталіцкім Касцёле. Гэта быў жэст Папы, які накіраваў свайго прадстаўніка, каб той на месцы разабраўся ў сітуацыі і выказаў падтрымку нам, тым, хто тут застаецца і працуе. Таму гэта была падтрымка для арцыбіскупа Кандрусевіча. Неабавязкова ўсе рэчы павінны быць агучаныя публічна.

**– У адной з прамоваў Вы сказалі, што факты сведчаць пра пераслед Касцёла ў Беларусі. Гэта было больш эмацыйнае выказванне ці Вы ўсё яшчэ так мяркуеце?**

– На тым этапе гэта было бачна. Сам факт, што ў Беларусь не мог уехаць мітрапаліт Кандрусевіч, – гэта акцыя не супраць канкрэтнай персоны, гэта было дзеля таго, каб нейкім чынам запалохаць нас, католікаў, і ўвесь Касцёл у нашай краіне. Дзеля таго, каб нейкім чынам намі тут маніпуляваць, каб можна было прамыць нам у нейкім ідэалагічным напрамку мозг. Каб мы рабілі і казалі пэўныя рэчы ў пэўным напрамку. Я пералічваў шмат фактаў, і калі яны збіраюцца разам, то бачна, што гэта быў моцны ціск. Сёння мы бачым, што такога моцнага адкрытага ціску няма. Але нельга сказаць, што ўся сітуацыя змянілася, бо мітрапаліт надалей не можа вярнуцца. Мы сёння знаходзімся ў незразумелым становішчы, цяжка даць канкрэтную ацэнку гэтаму. Пасля таго, як мы даем пэўную ацэнку, змяняюцца і пэўныя дзеянні. Пасля таго, як я даў ацэнку тым падзеям, што сведчаць пра пераслед Касцёла, напэўна, там нейкім чынам перагледзелі інфармацыю і, магчыма, сёння крыху інакш выглядаюць некаторыя рэчы.

### “Людзі ўжо стаміліся жыць у сістэме запалохвання, у сістэме рэпрэсій”

**– Грамадска-палітычны крызіс у Беларусі працягваецца два месяцы. Ці бачыце Вы нейкую магчымасць або інструмент выйсця з гэтай сітуацыі? Бо ані ідэалагічнае, ані сілавое супрацьстаянне не змяншаюцца.**

– Мы гэта бачым. Мы молімся праз тое, што адбываецца ў нашай краіне, молімся за паспяховае вырашэнне канфлікту. Гэты грамадска-палітычны крызіс не можа трываць вечна. Мірныя акцыі, якія працягваюцца ўжо такі доўгі час, якія збіраюць такую вялікую колькасць людзей, сведчаць, што людзі ўжо не будуць зграджацца з той сітуацыяй, каторая ёсць. Людзі ўжо стаміліся жыць у сістэме запалохвання, у сістэме рэпрэсій. Чым больш рэпрэсій мы сёння бачым, тым большая актыўнасць людзей, якія выказваюць сваю думку і сваю нязгоду.

Мы молімся, каб гэтае мірнае супрацьстаянне і далей было мірным, каб яно скончылася і не было кровапраліцця або горшага сцэнару, якія сёння можна прадбачыць. Гэта спробы раскалоць нашае грамадства, нацкаваць людзей адных на адных, праявіць агрэсію. Я не палітык і не лезу ў палітыку, каб прапанаваць мірнае вырашэнне. Але Касцёл ад самага пачатку казаў, і мітрапаліт казаў, што дыялог – гэта першае, што ёсць. Размова і жаданне гэтай размовы. Дыялог на роўных пазіцыях, а не так, што я начальнік, а ты дурань.

Мы можам імкнуцца да таго, каб дамовіцца, бо ўсе мы грамадзяне гэтай краіны і з’яўляемся беларускім народам, нягледзячы на тое, што маем розныя погляды, нацыянальнасць і рэлігію. Мы адзін народ і павінны дамаўляцца. Але сёння мы не бачым добрай волі для дамаўлення. Пакуль гэта шоў для карцінкі на тэлебачанні, гэта не домова і не размова партнёраў.

**– Вельмі часта ў падобных сітуацыях цэрквы выступаюць медыятарам у канфліктах. У Беларусі некалькі канфесій, і яны заўсёды суіснавалі мірна. Як Вы глядзіце на тое, каб менавіта рэлігійныя супольнасці выступілі ў якасці своеасаблівага моста паміж уладай і народам?**

– Мы гатовыя быць такім мостам. Але мы сёння не да канца ведаем і разумеем, што б гэта азначала. Мітрапаліт Кандрусевіч напачатку менавіта прапанаваў быць такім мостам. Ён сустрэўся з міністрам унутраных спраў, і гэта была пазітыўная сустрэча. І мы былі моцна здзіўленыя, што праз некалькі дзён ён не змог уехаць назад, у Беларусь. Гэта былі крокі да размовы і дыялогу. Але, магчыма, у той час некаторыя сілы і структуры лічылі, што дыялогу быць не павінна і што трэба задушыць увесь народны рух.



# выгляд, што нічога не бачыць. Але як тады жыць?”



Мы гатовыя стаць такім мостам, калі будзе рэальная патрэба. Самі мы не будзем навязвацца, бо не вельмі ведаем, якім чынам усё адбываецца. Калі мы глядзім на іншыя краіны, то там гэта адбываецца, хутчэй, спантанна, там рэлігійная супольнасць – тая саломінка, за якую хапаецца той, хто тоне. Мы гатовыя, але да канца не ведаем, што мы можам прапанаваць.

### “Сёння галоўнае – напалохаць, раздзяліць, настроіць пэўную частку насельніцтва супраць другой”

**– Расійскія спецслужбы заявілі, што ў Беларусі нібыта рыхтаваўся замах на галаву адной з цэркваў і выкарыстанне гэтага для стварэння рэлігійнага канфлікту. Ці адчуваеце Вы як адзін з лідараў Касцёла ў Беларусі нейкія гульні вакол Вас і ці пачуваецеся ў бяспецы?**

– Я адказаў на гэтае пытанне ў той самы дзень, калі спадар Нарышкін гэта агучыў. Сёння вельмі шмат фэйкаў і спробаў выкарыстаць Касцёл. Я лічу, што гэта была адна са спробаў выкарыстаць Касцёл, але не тымі спецслужбамі, пра якія ішла гаворка. Сёння галоўнае – напалохаць, раздзяліць, настроіць пэўную частку насельніцтва супраць другой. Я думаю, што гэта быў адзін з такіх сцэнароў, але ён не ўдаўся, бо людзі паглядзелі на гэта як на несур’ёзную рэч.

**– Пасля першых жорсткіх збіццяў удзельнікаў пратэстаў Вы казалі, што ахвяры гвалту прыходзілі і да Вас. Ці працягваецца гэта сёння?**

– Сітуацыя, на вялікі жаль, развіваецца. Гэта не былі адзінкавыя выпадкі, іх вельмі шмат, і яны паўтараюцца. Мы спрабуем даваць псіхалагічную падтрымку гэтым людзям, бо многія з тых, хто прыходзіць да нас, нават самі не ведаюць, чаго яны шукаюць. Гэта не абавязкова католікі, гэта нават не абавязкова вернікі. Людзі прыходзяць дзеля таго, каб нешта знайсці, бо чалавек мусіць выкінуць увесь негатыў, якога ў яго назбіралася вельмі шмат. Але не заўсёды і не ўсюды ён можа гэта зрабіць. На сёння гэта адна з найважнейшых дапамогаў, якую мы можам прапанаваць. Мы аказваем і пэўную матэрыяльную падтрымку людзям, якія да нас звяртаюцца.

**– А ці прыходзілі да Вас людзі з іншага боку? Напрыклад, сілавікі, амапаўцы?**

– Мы адкрытыя абсалютна для ўсіх. Мы нікому не скажам, што ён не можа да нас прыйсці. Мы прымаем у святыні кожнага і не кажам, што дзверы для цябе зачыненыя, бо ты зрабіў нешта дрэннае.

**– У Беларусі новы праваслаўны мітрапаліт. Ці былі ў вас ужо нейкія кантакты з ім?**

– Мы з уладыкам Веньямінам знаёмыя даўно. Мы перасякаліся на розных мерапрыемствах, і я ведаю яго з пазітыўнага боку, як вельмі глыбокага верніка, сапраўднага манаха, каторы прысвяціў сваё жыццё служэнню Богу. Мы досыць даўно не сустракаліся, магчыма, не спрыяе і атмасфера ў Беларусі, няма і мерапрыемстваў. У госці мы пакуль што не хадзілі адно да аднаго.

### “Чалавек, які прабачае, робіцца больш моцным”

**– Мітрапаліт Кандрусевіч казаў, што лозунг “Не забудзем, не прабачым” гучыць не па-хрысціянску. Як прабачыць камусьці, у каго сыну ці дачцэ зламалі рэбры, стралялі ва ўпор ці згвалцілі?**

– Гэта сапраўды псіхалагічная рана, якая застаецца. Тут ёсць два бакі. Адзін з іх – прабачэнне і міласэрнасць. Другі – справядлівасць. Вельмі часта мы гэтыя дзве сферы змешваем. Ёсць паняцце справядлівасці, для гэтага пакліканыя свецкія суды. Справядлівасць павінна быць, чалавек павінен прайсці праз ачышчэнне. Але Бог нас заклікае да міласэрнасці і прабачэння. Увесь Новы Запавет, усе прамовы Хрыста, пазнейшае навучанне апосталаў пранізаныя думкамі пра міласэрнасць: “будзьце міласэрнымі, бо Я міласэрны”. Калі ты хочаш, каб табе прабачыў Бог, то ты спачатку прабач іншаму чалавеку.






Прабачэнне – гэта не аднаразовая акцыя. Калі нехта лічыць, што прабачыў, і ўсё – гэта памылка. Прабачэнне – гэта праца над сабою. Святы Ян Павел II сказаў, што чалавек, які прабачае, не праяўляе слабасць. Наадварот, калі ён здолеў прабачыць, ён робіцца моцнейшым, бо працаваў над сабою, ён перамог крыўду, боль і эгаізм. Гэта працэс, і ён узмацняе чалавека. Бо калі ён не будзе рабіць высілкаў, каб прабачыць, то не зможа выкінуць з сябе зло, і яно будзе, як чарвяк, есці яго знутры.

**– У апошняй энцыкліцы “Fratelli tutti” Папа Рымскі шмат піша пра палітыку і пра ўдзел вернікаў у ёй. Ці няма ў гэтым нечага заганнага, што католік, вернік, займаецца палітыкай, агучвае палітычныя пытанні? Бо часта ў Беларусі палітыку і рэлігію спрабуюць раздзяліць, як быццам бы гэта забаронена.**

– Палітыка – гэта частка жыцця чалавека. Рэлігія – гэта таксама частка жыцця чалавека. Мы, Касцёл як структура, мы не лезем у палітыку і разумеем чаму. Але агулам кожны чалавек мае права мець сваю думку. Сёння ў нашай краіне нам кажуць, што не, нельга мець сваю думку. Што думка павінна быць адна, і яна павінна быць такая, як кажуць нам ідэолагі. Але гэта абсалютна нармальна – мець свае погляды, агучваць іх і прапаноўваць іншым. Калі мы, хрысціяне, змагаемся за захаванне жыцця як найвялікшага дару ад Бога, калі мы гаворым пра прынцыпы справядлівасці і іншыя рэчы, то нельга сказаць, што мы далёкія ад жыцця. Але хтосьці можа сказаць, што гэта палітыка.

Ёсць і палітычныя партыі, якія нясуць у сабе прапаганду хрысціянскіх каштоўнасцяў. Я не лічу, што мы не маем права прапагандаваць гэтыя каштоўнасці. Але існуюць і партыі, якія прапануюць процілеглыя рэчы. Яны таксама маюць права існаваць, бо гэта погляд чалавека. Мы маем права весці дыскусію і размаўляць. Мы ўжо павінны былі зрабіць высновы з гісторыі, калі была так званая “святая інквізіцыя”, калі людзей забівалі за погляды. Час ужо жыць у XXI стагоддзі. Галоўнае, каб чалавек заўсёды заставаўся чалавекам, каб ён кіраваўся прынцыпамі дыялогу і размовы.

**– Як, на Ваш погляд, чалавек павінен суіснаваць з аўтарытарнай дзяржавай? Мы ўсе памятаем словы “Богу – Богава, а кесару – кесарава”. Падпарадкоўвацца і суіснаваць ці змагацца з ёю?**

– Перш за ўсё мы кажам пра тое, што кожны чалавек, нягледзячы ні на што, незалежна ад месца і любой сітуацыі, павінен заставацца чалавекам. Чалавекам з вялікай літары. Ён павінен мець сфармаванае сумленне, якое падказвае, як сябе паводзіць. Гэта падмурак тых маральных каштоўнасцяў, на якіх ён жыве. Калі аўтарытарная сістэма прапануе нам іншыя “каштоўнасці” – забіваць або красці, – чалавек мае права выбару. Калі гэта вернік, то ён павінен захаваць свае адносіны з Богам. Ліберальная сістэма прапануе чалавеку поўную свабоду, але з гэтай свабодай трэба яшчэ ўмець штосьці зрабіць і ўмець ёю карыстацца. Трэба быць сабою, быць добрым чалавекам і не абыякавым да іншых людзей. А далей сумленне падкажа, што зрабіць.

# Парафія ў Варапаеве адзначыла фэст св. Міхала Арханёла і развіталася з пробашчам



Кс. Павел Самсонаў уручае кс. Юрыю Вільку падзяку ад біскупа Алега Буткевіча

**Урачыстасць адбылася 29 верасня, калі Касцёл адзначае свята Арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала. Варапаеўская парафія сваім апекуном мае св. Міхала.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Дарэчы, ён лічыцца нябесным заступнікам Беларусі, а імя азначае "Хто ж, як не Бог". Святочны дзень стаў і часам развітання з пробашчам кс. Юрыем Вількам SCJ.

Святар тут служыў з 2015 года, спачатку вікарыем, а з 2016 года пробашчам. 4 верасня кс. Юрый, які мае польскае грамадзянства, але шмат гадоў нёс Божае слова на тэрыторыі Беларусі, атрымаў ліст ад упаўнаважанага па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Леаніда Гулякі, які адмяняе дазвол на святарскае служэнне ў нашай краіне. Беларускія ўлады рэгулююць дзейнасць святароў, і без спецыяльнага дазволу замежныя ксяндзы не могуць цэлебраваць ніводнай святой Імшы. Для пастаяннай працы неабходны падпісаны дазвол.

У гэты дзень у Варапаева прыехалі падтрымаць і разам памаліцца дэкан Пастаўскага дэканата кс. Павел Самсонаў, сабраты з кангрэгацыі айцоўсэрцанаў з Паставаў, Гродна і Шаркаўшчыны, а таксама святары з суседніх парафій. Галоўным цэлебрантам Эўхарыстыі і казнадзеем быў віцэ-дэкан Пастаўскі кс. Аляксандр Баран, пробашч з Лынтупаў.

Ксёндз-дэкан Павел Самсонаў ад імя біскупа Віцебскага Алега Буткевіча ўручыў кс. Юрыю Вільку падзяку за ахвярнае, шматгадовае служэнне Каталіцкаму Касцёлу ў Беларусі.

Словы падзякі і перапрашэння скіравалі варапаеўскія парафіяне. Быў час, калі кс. Юрый будаваў Божае Валадарства на Пастаўскай зямлі, таму развітацца і падзякаваць за гады служэння захацелі многія пастаўчане, якія адмыслова прыбылі на фэст.

Апошнім пунктам урачыстасці стала выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, эўхарыстычная працэсія з фігурай св. Міхала і спевам гімну "Магутны Божа".

# Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч



Выступае кс. Уладзіслаў Завальнюк

**25 верасня ў Глыбокім прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч". Канферэнцыя праводзілася ў межах выканання Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2016-2020 гг. "Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства".**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Арганізатарамі навукова-вага форуму выступілі Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь; ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк – пробашч касцёла Св. Сымона і Алены ў Мінску, кандыдат гістарычных навук; Міжнародны экалагічны інстытут імя А.Д. Сахарава БДУ, Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт.

У канферэнцыі ўдзельнічалі людзі, для якіх асоба Эдварда Вайніловіча з'яўляецца прыкладам служэння беларускаму народу. У форуме прынялі ўдзел шаноўныя госці – біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк, кс. Мікалай Цімхановіч – пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, протаіерэй Міхаіл Ізаітка – благачынны цэркваў Глыбоцкага раёна, рабін Віцебска Малкіель Гаргодзэ.

Для ўдзельнікаў канферэнцыі была падрыхтаваная выстава "Малой радзіме прысвячаецца".

На правах гаспадара прысутных прывітаў старшыня Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта Аляксандр Шубскі. Затым выступіў намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук РБ Вадзім Лакіза, які ўзгадаў унікальную гістарычную спадчыну Глыбоччыны, расказаў пра мэту правядзення канферэнцыі і працу інстытута.

Біскуп Алег Буткевіч падзякаваў арганізатарам форуму за запрашэнне і выбар месца правядзення, падкрэсліў міжканфесійны характар канферэнцыі. Іерарх адзначыў, што Эдвард Вайніловіч фундаваў будоўлю каталіцкіх касцёлаў і праваслаўных цэркваў, не адмаўляў у дапамозе іншым канфесіям. Таксама зазначыў, што асобу Вайніловіча вызначае мужнасць, хрысціянская пакора, яднанне сваіх цярпенняў з цярпеннямі Хрыста на крыжы. Біскуп Алег падкрэсліў каштоўны выхаваўчы складнік для сучаснай моладзі ў дзейнасці Эдварда Вайніловіча.

Протаіерэй Міхаіл Ізаітка перадаў прывітальнае слова ад епіскапа Полацкага і Глыбоцкага Ігнація і падкрэсліў, што мы ўсе – адзіны беларускі народ.

Рабін Віцебска Малкіель Гаргодзэ шчыра падзякаваў за запрашэнне і расказаў, што яго сям'я паходзіць з Глыбокага і зазначыў: іўрыт у пэўным сэнсе таксама паходзіць з Глыбокага.

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк згадаў пра экуменічны дух Вайніловіча, чысціню веры, шанаванне людзей усіх веравызнанняў. Ён праз усё сваё жыццё пранёс словы: "Няхай вернікі Беларусі ўсіх канфесій, кожны ў сваёй святыні, славяць аднаго Бога ў небе".

Падчас пленарнага пасяджэння з дакладамі і навукова-практычнымі работамі выступілі навукоўцы, настаўнікі і вучні, пераможцы конкурсу навукова-даследчых работ. Адбылося ўзнагароджанне вучняў і настаўнікаў дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Сярод тых, хто атрымаў падзяку Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі за папулярызацыю гісторыка-культурнай спадчыны Глыбоцкага раёна, быў і пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім ксёндз Мікалай Ціхановіч.

Гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі пазней прапанавалі аглядную экскурсію па Глыбокім. У другой палове дня працягвалася праца па секцыях.

На заканчэнне форуму падвялі вынікі працы і адбылося ўрачыстае закрыццё канферэнцыі.



## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5** лістапада – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **імяніны** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6** лістапада – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**10** лістапада – **імяніны** адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Дзеркаўшчына)*;

**11** лістапада – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**12** лістапада – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Віцебск)*, **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**13** лістапада – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**14** лістапада – **дзень нараджэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**19** лістапада – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў**;

**20** лістапада – **дзень біскупскай сакры** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**23** лістапада – **імяніны** адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**30** лістапада – **імяніны** адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **кс. канонік Андрэй Аніскевіч** – дырэктар "Карытас" *(Віцебск)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*; **дзень нараджэння** адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Малецкая Т.І.** *(Мёры)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Зенона Алькснін** *(Браслаў)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Бранiслава Юран** *(Браслаў)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Данута Мароз** *(Лонскія)*, **Алена Махальская** *(Падсвілле)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **парафіяне з Бягомля**, **Усціновіч В.І.** *(Януковічы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Мурзенак В.М.** *(Паставы)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Алена Дзедава** *(Наваградак)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Антон Жменчуроўскі** *(Уліна-2)*, **Вераніка Сурвіла** *(Шэметава)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Роўда Э.Ц.** *(Новалукомль)*, **Марунько Н.Н.** *(Новалукомль)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

### Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

### Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Святы Язафат Кунцэвіч

## Віктарына



**У лістападзе Касцёл успамінае святога Язафата Кунцэвіча – біскупа і мучаніка, апекуна Віцебскай дыяцэзіі. У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" прапануем праверыць, ці добра вы знаёмы з асобай святога Язафата Кунцэвіча. Праверце свае веды, прайдзіце тэст!**

**1** Дзе нарадзіўся святы Язафат?



**А.** Уладзімір-Валынскі
**Б.** Вільня
**В.** Брэст

**2** Якое свецкае імя меў будучы святы?



**А.** Язэп
**Б.** Ян
**В.** Васіль

**3** Калі жыў святы Язафат Кунцэвіч?



**А.** У канцы XIII – першай палове XIV ст.
**Б.** XV ст.
**В.** У канцы XVI – першай палове XVII ст.

**4** Да якога манаскага ордэну належаў святы Язафат?



**А.** Дамінікане
**Б.** Базыліяне
**В.** Картузіянцы

**5** У якім сане служыў святы Язафат Кунцэвіч?



**А.** Прэзбітар
**Б.** Біскуп
**В.** Арцыбіскуп

**6** За што аддаў сваё жыццё святы Язафат?



**А.** Барацьба з паганствам на беларускіх землях
**Б.** Еднасць Хрыстовага Касцёла
**В.** Барацьба супраць ерасі арыянства

**7** У якім горадзе быў забіты святы Язафат?



**А.** Полацк
**Б.** Віцебск
**В.** Магілёў

**8** Заснавальнікам і першым ігуменам якога манастыра стаў святы Язафат?



**А.** Жыровіцкага
**Б.** Полацкага
**В.** Віцебскага

**9** Горад, у якім зараз знаходзіцца цела святога Язафата?



**А.** Бяла Падляска
**Б.** Вена
**В.** Рым

**10** У які дзень Касцёл адзначае ўспамін святога Язафата Кунцэвіча?



**А.** 16 мая
**Б.** 10 лістапада
**В.** 12 лістапада

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 16

# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца.**

Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, то павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але маем магчымасць спаткацца ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: быць у стане асвячальнай ласкі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

## 1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.



У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або благаслаўлёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесеныя многія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

## 2 лістапада – успамін усіх памерлых вернікаў.



## 11 лістапада – успамін св. Марціна Турскага, біскупа.



Святы нарадзіўся паміж 316 і 317 гг. у Панноніі (сучасная Венгрыя) у сям'і язычнікаў і стаў вайскоўцам. Аднойчы на вуліцы св. Марцін убачыў жабрака, цела якога было толькі ледзь прыкрытае лахманамі, нягледзячы на холад. Малады вайсковец выцягнуў меч і, разрэзаўшы ім свой плашч, палову аддаў таму жабраку. Уначы святы ўбачыў Езуса, Які быў, захінуты ў палову яго плашча. Пад уражаннем ад убачанага ён пакінуў вайсковую службу і прысвяціў сябе служэнню Хрысту праз абвяшчэнне Божага Слова язычнікам.

Сярод простых людзей святы карыстаўся папулярнасцю і быў абраны на пасаду біскупа горада Тура. Але, стаўшы біскупам, вызначаўся ўбоствам і жыў не ў біскупскім палацы, а ва ўбогай пустэльні непадалёк ад горада.

Святы памёр 8 лістапада 397г. Ён з'яўляецца апекуном вайскоўцаў, краўцоў, бедных і жабракоў, а таксама хатняй жывёлы, асабліва коней і гусей. На свята ў яго гонар у многіх краінах гатуюць традыцыйнага гусака.

## 12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, галоўнага апекуна Віцебскай дыяцэзіі.



Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні перадддыяканату і дыяканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскія пасвячэнні і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Настаяцелі даверылі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара. 12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі уніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій XI у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Бялай Падлясцы, былі перавезеныя ў Вену, а потым у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

## 16 лістапада – успамін Маці Божай Вастрабрамскай.



У кожнай хрысціянскай краіне ёсць абраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца каталікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вастрабрамскай тысячы пілігрымаў.

## 21 лістапада – успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.



Успамінаем дзень ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Ерусалімскім храме Богу згодна з абяцаннямі, дадзенымі праз бацькоў Багародзіцы. Паводле паданняў, якія бяруць пачатак у апокрыфах, калі Дзева Марыя ўпершыню была прыведзена ў храм бацькамі, ёй споўнілася толькі тры гады. У Ерусалімскім храме Марыя выхоўвалася да 12 гадоў. Гэтае свята адзначалася на Усходзе ўжо ў VII стагоддзі ў гадавіну пасвячэння касцёла Маці Божай у Ерусаліме. У XI стагоддзі свята было прынята Заходнім Касцёлам. Сёння Касцёл успамінае перш за ўсё Ахвяру, якая адбылася ў душы Марыі ў пачатку Яе свядомага жыцця. Марыя з'яўляецца для ўсіх прыкладам жыцця, прысвечанага Богу.

## 22 лістапада – урачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.



Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

## 30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.



Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам, Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "X" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі трапілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, атачаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас.

Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы – апякун рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Роля Казіміра Сваяка ў гісторыі Камайскай парафіі

*"Добра быць коласам, але лепш быць васільком"*
***Максім Багдановіч***

**Наша родная беларуская зямля… Што ні куточак яе – то быль, то легенда, то песня, то казка, то суровая праўда жыцця.**

**Генавефа Дубіловіч**

Наш куточак – гэта Камайшчына, візітнай карткай якой з'яўляецца камайскі касцёл Святога Яна Хрысціцеля, адзін з найстарэйшых храмаў Беларусі. У яго багатая і славутая гісторыя, непарыўна звязаная з гісторыяй нашай радзімы. Шмат бураў і ліхалецццеў пранеслася над ім, Тут праходзілі войны розных часоў і народаў (пра гэта сведчаць шматлікія могілкі на тэрыторыі парафіі), з касцёлам звязаныя лёсы многіх вядомых людзей. Яны пакінулі тут свае сляды, кавалачкі сваёй душы, іх імёны ўвекавечаныя на памятных дошках унутры касцёла, які з'яўляецца своеасаблівым музеем пад скляпеннямі храма.

Адна з іх прысвечаная святару-паэту Казіміру Сваяку, ураджэнцу в. Барані Клюшчанскай парафіі, што ў сучасным Астравецкім раёне. А першым месцам яго працы быў камайскі касцёл. У 1915 г. ён тут некалькі месяцаў працаваў вікарыем. На жаль, мала часу было адпушчана маладому святару, кароткай аказалася яго жыццёвая дарога, але ён пакінуў пасля сябе багатую спадчыну, духоўную і літаратурную. Аднаўляючы гісторыю нашага касцёла, мы па крупінках збіралі матэрыял пра Казіміра Сваяка, пачынаючы ад краязнаўцы Яна Драўніцкага, прафесара Адама Мальдзіса, сваячкі святара Іаланты Валуевіч і інш. Звярталіся да розных крыніц і выданняў. І ў нас атрымалася.

І вось 2006 год – год памяці святара-паэта Казіміра Сваяка. У камайскім касцёле сабраны матэрыял, аформленая выстава, пасланыя запрашэнні. 19 лютага – першая сустрэча інтэлігенцыі, неабыякавых да гісторыі касцёла і жыцця Казіміра Сваяка людзей Камайскай парафіі і Астравеччыны. Яна прайшла вельмі цікава і змястоўна. Дамовіліся сустракацца кожны год: у дзень нараджэння Сваяка – у Камаях, у дзень смерці (дзень памяці) – у Клюшчанах. І вось ужо 15 гадоў адбываюцца такія сустрэчы, 15 слаўных старонак у гісторыі нашых касцёлаў. Гэта 30 спатканняў, незабыўных уражанняў з абменам думкамі, душэўнымі размовамі. На адной з іх прысутнічаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Канешне, у гэтым вялікая заслуга нашых святароў – кс. Яцэка і кс. Анатоля. Вялікую арганізацыйную працу праводзіць Іаланта Валуевіч. Ды і іншыя творчыя, неабыякавыя людзі Астравеччыны з'яўляюцца годнымі прадаўжальнікамі справы свайго славутага земляка. Дзякуючы іх спрыянню была выдадзена кніга "Казімір Сваяк. Выбраныя творы", якая ўвайшла ў серыю "Беларускі кнігазбор. Мастацкая літаратура". У гэтым ёсць і заслуга кс. Яцэка, пра што сведчыць запіс у канцы выдання.

Акрамя нашых планавых сустрэч у парафіях праводзіцца і іншая творчая праца. Так у камайскім касцёле адбылася імпрэза па творах Казіміра Сваяка, пастаўленая мясцовымі школьнікамі. Кс. Яцэк неаднаразова пабываў з міністрантамі на магіле Сваяка у Вільні, праводзіліся ўрокі катэхезы пра жыццё і духоўнасць святара-паэта. Многае адлюстроўваася ў СМІ.

У 2010 г. рэдакцыяй газеты "Астравецкая праўда" быў аб'яўлены конкурс твораў, прысвечаны 120-годдзю Казіміра Сваяка, у якім ад камайскага касцёла прыняла ўдзел і я, паслаўшы свой верш, прысвечаны Сваяку, за што атрымала ў падарунак кнігу святара-паэта. На жаль, няма сёння з намі краязнаўцы Драўніцкага, які займаўся вывучэннем жыцця і творчасці славутага сына Астравеччыны, няма і паэта з Камаяў А. Нафрановіча, які таксама напісаў верш, прысвечнаы Сваяку, і які любіў быць удзельнікам такіх сустрэч. Сваімі вершамі ён упрыгожваў духоўнае жыццё нашых касцёлаў.

Хаця ўжо і многа сказана пра Казіміра Сваяка, пра яго можна гаварыць бясконца: і як пра святара, і як пра паэта. Гэта чалавек, як кажуць у народзе, двойчы пацалаваны Богам, гэта першая яркая зорка на духоўным небасхіле гісторыі нашага касцёла ды і іншых касцёлаў, у якіх ён працаваў. Яго ўплыў, апека над гэтымі парафіямі адчуваецца і сёння, і, магчыма, над асобнымі людзьмі таксама, якія памятаюць пра яго і ўшаноўваюць яго спадчыну.



Казімір Сваяк

Раней мне больш блізкаю была яго проза, асабліва яго духоўны дзённік. Зараз, калі я яшчэ раз перачытваю яго, то бачу, што праблемы, узнятыя там больш за сто гадоў таму назад, актуальныя і для сённяшняга дня.

Гэта і праблемы веры, і культура, і маральнасць чалавечага жыцця, і любоў да Радзімы, і клопаты пра далейшы яе лёс, і вера ў светлую будучыню нашага народа. Ён ясна ўсведамляў геапалітычнае становішча Беларусі паміж Усходам і Захадам, уплыў якога вельмі выразна праяўляецца і сёння.

На надмагільным камені Сваяка выбітыя радкі з яго верша "Ідзе вось ясная пара, праўду свеціць нам зара Айчына-Маці-Беларусь, гарой Жыва!"

Жыві, Беларусь, зялёная, блакітнавокая краіна ў цэнтры Еўропы! Давяраем твой лёс Божаму Провіду! І хай жыве памяць аб тых, хто прысвяціў сваё жыццё служэнню Богу і людзям, да ліку якіх належаў і Казімір Сваяк.

Справа, пачатая ім, духоўнае сваяцтва людзей працягваецца. Яго зорка будзе гарэць, пакуль стаяць нашы храмы. Хочацца сказаць сёння "дзякуй" нашым святарам: ксяндзу-канoніку Яцэку, які з'яўляецца ініцыятарам такіх сустрэч, дзякуючы якому нашы парафіі сталі парафіямі-пабрацімамі і завязаліся сваяцкія адносіны з усёй Астравеччынай. Дзякуй кс. Анатолю, каторы актыўна ўключыўся ў гэту справу, ад якой, напэўна, ёсць карысць для абодвух бакоў.

Ёсць павучальная легенда пра каласы і васількі. Прыгожае залатое поле збажыны, але сумнае яно, калі няма ў ім васількоў. Каласы пад цяжарам зярнят схіляюцца да зямлі. А васількі стаяць прама. Яны, як духоўныя пастыры, самі колеру неба, цягнуцца ўвысь да неба, напамінаюць людзям пра вечнасць. Мы дзякуем нашым духоўным пастырам, святарам св. памяці кс. Стаповічу, пробашчам нашых храмаў кс. Яцэку і кс. Анатолю, што яны таксама, як тыя васількі, клічуць нас да нябесных вышыняў, вядуць за сабою да галоўнага святара Езуса Хрыста.

Парафіяне камайскага касцёла актыўна ўключыліся ў Жывы Місійны Ружанец, мэтаю якога з'яўляецца духоўная апека над святарамі, кансэкраванымі асобамі, малітва за памерлых святароў, а таксама аб новых пакліканнях да святарскага і манаскага служэння.


Касцёл Святога Яна Хрысціцеля ў Камаях


Рух "Маці ў малітве" з Камаяў выконвае спеў "Малiся"

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч!*** *З нагоды Дня нараджэння шчыра віншуем Вас і жадаем дароў Духа Святога, багатага плёну на Божай ніве, натхнення ў творчай працы на хвалу Божую, творчага пошуку і аптымізму! Няхай Вялікі Бог адорвае Вас моцным здароўем, даўгалеццем! Жадаем апекі Найсвяцейшай Маці Божай і Анёла-ахоўніка, Божага блаславення і ўсіх патрэбных ласкаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю, чытачы "Каталіцкага Весніка" – парафіяне Мядзельскага касцёла Маці Божай Шкаплернай***

## З Днём нараджэння!



*Віншуем Вас, **шаноўны ксёндз Іван Кароткін**, з Днём нараджэння (8 кастрычніка)!*

*З гэтай нагоды жадаем Вам шчасця, моцнага здароўя, душэўнага спакою, доўгіх гадоў жыцця і шмат Божай ласкі!*

*За нядоўгі час працы ў нашай парафіі для нас Вы сталі родным і дарагім чалавекам. Як добры Пастыр беражэ свой статак, так і Вы атуляеце клопатам наш касцёл і кожнага з нас. Дзякуем Вам за адданую працу ў нашай парафіі, за ласкавую ўсмешку, за добрыя словы, за змястоўныя казанні, за цярпенне, разуменне і падтрымку!*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам на нялёгкім святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды хай абараняе і падтрымлівае! Дзякуем Пану Богу за дар Вашага паклікання і абяцаем шчырую малітву!*

*Сардэчна дзякуем бацькам нашага ксяндза Івана за выхаванне цудоўнага сына-святара!*

***Парафіяне касцёла Святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах***

## Хвала Хрысту!



***Дарагому ксяндзу Уладзіславу Шарковічу*** *з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння (12 кастрычніка) дасылаем самыя сардэчныя пажаданні.*

*Няхай Пан Бог штодзённа адорвае цябе, шаноўны ксёндз Уладзіслаў, сваімі ласкамі, здароўем, супакоем, мудрасцю і стойкасцю ў душпастырскай працы! Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Пан Бог хай напоўніць кожны дзень тваййго жыцця любоўю і дабрынёй!*

***З любоўю, мама, тата, брат Андрэй і бабуля***

## Хвала Хрысту!

***Паважаны ксёндз Уладзіслаў Шарковіч!*** *Шчыра віншуем Вас з гадавінай святарскага пасвячэння!*

*Няхай Пан Бог дае Вам сілы і мудрасць для пастырскага служэння, адорвае шчодрымі ласкамі, каб Вы і надалей годна неслі святло Праўды!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*З вялікай пашанай віншуем **спадарыню Ганну Яблонскую** з Днём нараджэння, які яна адзначыла 12 кастрычніка.*

*Хочам выказаць шчырую падзяку за клопат пра чысціню ў нашым касцёле і на прыкасцельнай тэрыторыі. Няхай добры Бог аддзячыць Вам, спадарыня Ганна, за Вашу працу, пачуе Вашы малітвы і просьбы, адорыць сваімі ласкамі, а Маці Божая хай клапатліва атуліць сваёй ласкай Вас і Вашых дзяцей!*

***З удзячнасцю, вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і Святога Язафата Кунцэвіча***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем паважанага і любімага **ксяндза-пробашча Тадэвуша Кавальскага** з Імянінамі (28 кастрычніка) і з Днём нараджэння (14 лістапада)!*

*Жадаем Вам, мілы ойча, і Вашым родным Божага блаславення, моцнага здароўя, даўгалецця, каб дарога Вашага жыцця заўжды была роўнай, гладкай і асвячалася Божым нябесным святлом! Хай Вас абмінаюць непрыемнасці, цяжкасці і хваробы! Жадаем не спыняцца на дасягнутым, а пастаянна ісці наперад і несці людзям Веру, Надзею і Любоў!*

*Вялікі дзякуй Вам за дабрыню, за ласку, за добрыя словы падтрымкі ў цяжкія хвіліны, за шчырую малітву і абвяшчэнне Божага слова!*

*Шчасця і ўсяго найлепшага Вам, паважаны ойча Тадэвуш!*

***З малітвамі, любоўю і павагай, вернікі парафіі Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*12 кастрычніка першую гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў вікарый катэдральнай парафіі ксёндз Алег Зямчонак.*

***Шаноўны ксёндз Алег!*** *Мы вельмі рады, што першы год Вашага служэння прайшоў разам з намі ў нашай святыні. Дзякуем за дабрыню, уважлівасць, за тлумачэнне Божага Слова для нас і за цікавыя казанні для дзяцей, за працу з міністрантамі, за інфармацыйнае забеспячэнне парафіі, за малітву і ўсе намаганні для развіцця нашай супольнасці! Жадаем, каб Ваша праца заўсёды прыносіла плён, каб побач былі надзейныя сябры і добразычлівыя людзі! Жывіце любоўю, дзяліцеся верай і не трацьце надзеі! Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах.*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Віцебск)***

# Поможем Сашеньке Якушенко!

Сашенька родилась 26 мая 2010 года путём кесарево-сечения. Выписались мы здоровыми и с большой радостью уехали домой. Два месяца всё было хорошо.

Но когда Сашеньке исполнилось три месяца, она резко перестала кушать, стала выкручивать ручки и ножки, голова совсем не держалась. Поехали в Боровляны, в детскую клиническую больницу. УЗИ головного мозга показало, что у Сашки желудочки головного мозга полностью наполнены жидкостью. Врач назначил нам лекарства и отправил домой, так как в больнице не было мест.

С пяти месяцев начали лечиться. Неоднократно лечились в Боровлянах, потом в городском психо-неврологической клинике в Минске на Володарского, лечились и проходили реабилитацию в клинике профессора Козявкина в Трускавце не один раз. Прошли два курса дельфинотерапии, пробовали методы нетрадиционной терапии, а так же дорогостоящее медикаментозное лечение.

Жидкость из головного мозга ушла, когда Сашеньке исполнилось годик. Но на фоне гидрацефолии поставили диагноз ДЦП и дали инвалидность 4 группы тяжести (эта самая тяжелая группа).

Врачи нам говорили, что Сашка сидеть не будет, не будет разговаривать, психомоторное развития никакого не будет. Но, к великому счастью, они ошиблись.

Сразу конечно для всех нас был "удар". Но сдаваться мы не стали. Каждый день с огромным трудом, маленьким "шажочками" начали идти вперёд.

Саша научилась сама кушать, стоять у поддержки, хоть не долго, но уверенно. Сашка садится и сидит сама, без поддержки, научилась ползать своим методом, на попе, а опирается на ручки. В плане психомоторного развития скачок вперёд очень большой: всё знает по картинкам, знает все цвета, понимает всю обращённую речь. Знает цифры, любит заниматься.

Сашенька за все это время научилась говорить слова Ма-Ма, ДА - эти два слова тысячу раз за день у неё. Если она хочет меня позвать, то интонация уже зовущая. Для её возраста это конечно же мало, но самое главное – начало положено.

В центре "Эдельвейс", который мы посетили в июле, Сашенька научилась говорить ХА-ХА, ТА-ТА, букву УУУУ и ЯЯЯЯ. Там прекрасные специалисты, коллектив очень хороший. Мы были у замечательного специалиста невролога, Саше прописали пить витамины разными курсами, сделали развёрнутый анализ крови, сделали УЗИ щитовидной железы и консультация эндокринолога. В половом развитии Сашуля развивается, как обычный здоровый ребёнок. Всё у неё в норме.По анализам не очень всё хорошо. Пьём железо и витамин Д. До нормы нам ещё очень далеко.



Так же прошли БАК (Биоакустическая коррекция головного мозга). Результаты отличные.

Надеемся, что потихонечку наша Сашенька заговорит. С каждым днём появляются новые звуки и слоги. Сашенька у нас старательная очень. Её хвалят за старание и внимательность. В центре "Эдельвейс" Сашу называли "наша работяжка". Только Сашка очень худенькая и маленькая. В свои 10 лет весит только 20 кг. Но она Боец у нас с большой буквы.

Иногда кажется, откуда столько сил и старания у моей маленькой Сашки?!..

На данный момент открыт сбор в оздоровительный центр физического развития и реабилитации "Развитие без барьеров" в г. Санкт-Петербург. Стоимость 140780 рос. руб. Это 5054 бел.рублей.

Положительная динамика в развитии большая и останавливаться нам нельзя. Поэтому приходится обращаться к благотворителям за помощью, так как уже сами не в состоянии собрать такую сумму.

Сашенька у нас как солнышко – всегда с улыбкой. Бывает у меня так больно на душе...обниму её, посмотрю на её улыбку – и сразу становится легче. Иногда думаю: сколько силы воли, сколько старания в этом маленьком человечке. Она у нас настоящий боец, хоть маленькая и хрупкая.

**Огромное спасибо всем, кто нам помогает в трудные минуты, спасибо всем благотворителям. Спасибо всем за поддержку, за добрые слова и за добрые сердца.**

**Диагноз:** ДЦП. Стастико-атактическая форма 3ст. Спастический тетрапарез. Спастический подвывих головок бедёр. Плоско-вальгусная деформация стоп.

**На лечение и реабилитацию**

Благотворительные счета открыты в центре банковских услуг 619 – г. Мядель, ул. Набережная, 4; УНП 100325912; МФО AKBBBY2X:

- **белорусские рубли** - транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY96AKBB31340000050956120619 в центре банковских услуг 619/Операционная служба, бессрочный
- **доллары США** - транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY67AKBB31340000050846120619 в центре банковских услуг 619/Операционная служба, бессрочный
- **евро** - транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY36AKBB31340000050996120619 в центре банковских услуг 619/Операционная служба, бессрочный
- **российские рубли** - транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY07AKBB31340000050886120619 в центре банковских услуг 619/Операционная служба, бессрочный

**Назначение платежа:** Сбор денежных средств на имя Мацкевич Натальи Григорьевны для лечения дочери Якушенко Александры Павловны

**Дополнительная информация о получателе средств:**
тел.8 029 2567532

**Адрес для почтового перевода:**
222395, Республика Беларусь, Минская область, Мядельский район, к.п. Нарочь, ул. Октябрьская, д.33. кв.32
Мацкевич Наталье Григорьевне

**Назначение платежа:** На лечение и реабилитацию ребёнка Якушенко Александры Павловны согласно выписного эпикриза №21777/573 и удостоверения серии 09 №0431282

**Номер МТС для пополнения баланса:**
+375 33 381 66 21
зарегистрирован на Наталью Мацкевич *(мама Саши)*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

## 1 лістапада 2020г., Урачыстасць Усіх Святых,

*Мц 5,1-12а*

Многія філосафы і мысляры на працягу стагоддзяў задаваліся пытаннем: дзеля чаго жыве чалавек? Які сэнс у ягоным існаванні? Падобныя пытанні непакояць не толькі вучоных мужоў, але і простых людзей. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вельмі проста адказвае на гэта: Бог стварыў чалавека для шчасця. Калі і ёсць нейкае перадвызначэнне для нас у Сусвеце, дык яно і заключаецца ў наканаванасці шчасця.

У сённяшнім урыўку з Евангелля Езус на гары блаславёнасцяў пералічвае тыя моманты, якія спрыяюць нашаму блаславёнству, або шчасцю. Цікава, што слова "блаславёны" азначае не проста "шчасце ў гэтую хвіліну". Яно азначае шчасце, стан поўнага псіхічнага, духоўнага і фізічнага задавальнення ў вечнасці.

Заўважым, што Езус прамаўляе сваё навучанне на гары. У традыцыі Старога Запавету так часта было, што менавіта на гары адбываўся важны момант у гісторыі збаўлення абранага народа. Успомнім хаця б Майсея, які на гары Сінай атрымаў ад Бога дзесяць запаведзяў. Нават праз гэтае геаграфічнае месца Збаўца хоча нібыта сказаць: тое, што Я вам гавару, мае надзвычайнае значэнне. Да каго звяртаецца ў гэтым навучанні Езус? Ці толькі да апосталаў? Так, яны сапраўды прысутнічалі, але там яшчэ былі натоўпы людзей з Галілеі, Юдэі і Ерузалема. Навука Езуса пра блаславёнстві датычыць кожнага чалавека, хто паверыў Яго слову. Нездарма 1 лістапада Касцёл адзначае Урачыстасць Усіх Святых. У гэты дзень мы ўспамінаем у літургіі ўсіх тых вернікаў, якія апярэдзілі нас у дарозе да Нябеснага Валадарства і якіх мы называем святымі. Іншымі словамі – шчаслівымі.

## 8 лістапада 2020г., 32-я Звычайная Нядзеля,

*Мц25,1-13*

У гэтым урыўку з Евангелля паводле Мацвея мы становімся назіральнікамі вясельнага абраду часоў Езуса Хрыста. У каталіцкай тэалогіі Езус паўстае вельмі часта ў вобразе Жаніха, які шукае сваю Абранніцу. А хто такая Абранніца? Гэта сам Касцёл, супольнасць людзей, якую шукае Бог. Адносіны Бога-Любові да чалавека падобныя да адносін закаханых. Адно без другога закаханыя не могуць жыць. Яны смуткуюць адно па адным, іх думкі занятыя толькі закаханай асобай. Бог закаханы ў чалавека і не хоча без гэтага чалавека быць. Таму на працягу вякоў рэхам адбіваецца вокліч Бог, Які шукае Адама: "Адаме, дзе ты?" А Адам схаваўся ў гушчары лесу, Адам уцёк ад Святла туды, дзе цемра. Бог не хоча мірыцца з нашай цемрай, бо Ён сам – Святло.

У сённяшняй прыпавесці мы можам падкрэсліць яшчэ адну немалаважную дэталь. Гэта алей для лямпы. Усе каментатары Святога Пісання сыходзяцца ў адным: алей у гэтым выпадку сімвалізуе добрыя ўчынкі чалавека. Яшчэ ў іншым месцы Езус кажа: ***"Няхай святло ваша так свеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца вашага, які ў нябёсах".*** Каб выйсці з цемры, нам неабходнае святло. Каб спаткацца з Богам-Жаніхом, нам неабходнае святло – нашыя добрыя ўчынкі. Памыляюцца нашыя браты-пратэстанты, якія гавораць, што для збаўлення дастаткова веры ў Бога. Так, вера – гэта зарука нашага ўваходу ў Божае Валадарства, вера – гэта Божы дар, які неабходны нам для збаўлення. Аднак сённяшняя прыпавесць пра разумных і неразумных паннаў падкрэслівае, як важна быць добрым чалавекам. Як важна не спыняцца рабіць дабро і багацець перад Богам менавіта ў гэтым: у тварэнні дабра. У гэтым і праяўляецца сапраўдная мудрасць верніка.



## 15 лістапада 2020г., 33-я Звычайная Нядзеля,

*Мц 25,14-30*

У гэтым урыўку з Евангелля мы чуем, як Бог інвеструе ў чалавека. Чаму так адбываецца? Справа ў тым, што наш Стваральнік, ствараючы, запланаваў нас падобнымі да Сябе. Мы створаны на Яго вобраз і падабенства. У чым гэта заключаецца? У тым, што ў нас ёсць розум і свабодная воля. Бог не хоча, каб мы былі нейкімі лялькамі, якія рухаюцца толькі таму, што хтосьці там цягае за вяровачкі. Падарыўшы нам розум і свабодную волю, Пан хоча, каб мы таксама былі творчымі, працавітымі, вынаходнікамі. Талент у Бібліі азначае нейкую агромністую колькасць багацця. На самай справе і адзін талент, і два, і пяць – гэта неверагодная каштоўнасць. Усе людзі з прыпавесці, якія атрымалі таленты, неверагодна багатыя. Але гэтае багацце дадзенае ім не для таго, каб яны яго проста схавалі. Гаспадар жадае, каб таленты прынеслі прыбытак. Хтосьці можа панаракаць, кажучы: а якія ў мяне таленты? Здароўя няма, маладосць прайшла, пенсія маленькая, жыву адзін. Так, жыццё няспынна можа нам падкідваць сюрпрызы. Але разам з тым само па сабе нашае жыццё – ужо неверагодная каштоўнасць. Падымі, дарагі чытач, сваю руку. Паглядзі на яе, паварушы пальцамі. Ці ж гэта не цуд, што сваёй рукой ты можаш некага блаславіць, абняць, прывітаць? З тваіх вуснаў могуць выйсці словы малітвы і праслаўлення. У сваіх думках ты ў стане малітоўна ахінуць увесь сусвет. Ніколі не позна рабіць дабро. Заўсёды можна павялічыць свой талент. І гэта ўмова ўваходжання ў Вечнае Шчасце.



## 22 лістапада 2020г., Урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету,

*Мц 25,31-46*

Тэма ўлады непакоіць сэрцы многіх людзей. І тых, хто кіруе маленькімі калектывамі, і тых, хто на чале дзяржавы. Свецкае разуменне ўлады вельмі простае. Яна патрэбная, каб існавалі пэўны парадак і іерархія паміж людзьмі. У сённяшнім урыўку з Евангелля Езус адкрывае нам праўду пра Божае Валадарства і месца ў ім чалавека. Што трэба зрабіць чалавеку, каб быць годным увайсці туды? Перамагчы на выбарах? Не. Дабіцца бліскучай кар'еры? Не. Авалодаць сучаснымі тэхнікамі ўплыву на свядомасць? Не. У Божае Валадарства можа ўвайсці толькі той, хто Хрыста бачыў у іншым чалавеку. Асабліва ў тым, хто хворы, хто ў вязніцы, хто пакінуты і галодны. У Божым Валадарстве лічыцца міласэрнасць, спагадлівасць і любоў. Нянавісць, помста і здзекі не маюць нічога супольнага з Божай рэчаіснасцю. Асцерагаймася асуджэння, пазбягайма праклёнаў і прагі помсты. Гэтыя рэчы не вядуць у неба. Такія паняцці адкідаюць ад Бога. Напрыканцы часоў Божы Сын прыйдзе ў славе, каб судзіць жывых і памерлых. Гэтую ісціну мы паўтараем кожную нядзелю на Святой Імшы падчас вызнання веры. Мы молімся, каб самі былі сярод тых, хто застаўся верным свайму хрысціянскаму паклiканню і жыццём сваім сведчыў пра міласэрнасць.

## 29 лістапада 2020г., І Нядзеля Адвэнту,

*Мк13,33-37*

Адвэнт – гэта перыяд радаснага чакання Нараджэння Збаўцы. Але ў гэты час мы не толькі чакаем перажывання Калядных Святаў. У Адвэнце мы вучымся чакаць другога прыходу Хрыста на зямлю. Тое, што Ён прыйдзе – гэта праўда. Сённяшні ўрывак з Евангелля пра гэта сведчыць. Чаканне азначае чуйнасць, гатоўнасць да сустрэчы. Таму так важна ў Адвэнце звярнуць увагу на сваё духоўнае жыццё. Задамо сабе пытанне: што з маёй малітвай? Як яна выглядае? Ці адкрываю я старонкі Святога Пісання? Калі апошні раз быў у спаведзі? Ці няма сярод маіх знаёмых кагосьці, хто мае на мяне крыўду? Што з маім сэрцам? Чым яно запоўненае? Ці магу я сказаць, што ў ім пануе любоў і прабачэнне? Навакольны свет вельмі гучны і спакуслівы. Д'ябал можа выкарыстаць яго уплыў, каб перашкодзіць нам у духоўным развіцці. З урыўка Евангелля мы таксама даведваемся, што пра час і гадзіну прыходу Збаўцы на зямлю ніхто нічога не ведае. Любыя канкрэтныя выказванні з датамі пра канец свету – гэта не што іншае, як выдумка. І да іх трэба ставіцца скептычна. Для нас жа важна памятаць пра асноўнае: Езус заклікае нас да чуйнасці і гатоўнасці Яго спаткаць.

*Падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***



# Адышоў у вечнасць ксёндз Пётр Пятрага




Курыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі са смуткам паведамляе, што 20 кастрычніка на 66-м годзе жыцця адышоў у вечнасць ксёндз Пётр Пятрага, пробашч парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Касцяневічах, які таксама здзяйсняў душпастырскую апеку над вернікамі парафіі Перамянення Пана ў Сцешыцах (Вілейскі дэканат).

Развітанне са спачылым святаром прайшло ў в. Касцяневічы Вілейскага раёна 22–23 кастрычніка.

Пахаваны ксёндз Пётр Пятрага 23 кастрычніка ў в. Краснае Маладзечанскага раёна.

**Вечны адпачынак дай яму, Пане...**

# Fratelli tutti: абнародаваны тэкст новай энцыклікі Папы Францішка



**Братэрства і сацыяльнае сяброўства – шляхі да будаўніцтва лепшага, больш справядлівага і мірнага свету, у якім не будзе месца ні вайне, ні глабалізацыі абыякавасці. Такі сэнс абнародаванай энцыклікі Папы Францішка "Fratelli tutti" (Усе – браты).**

Дакумент быў падпісаны 3 кастрычніка ў італьянскім Асізі. Гэта трэцяя энцыкліка Папы Францішка пасля "Lumen fidei" (2013) і "Laudato si'" (2015).

Сам Пантыфік называе яе "сацыяльнай". Назваў для дакумента паслужылі словы з "Напамінаў" св. Францішка Асізскага, з якімі ён звяртаўся "да ўсіх братоў і сясцёр", каб прапанаваць ім "мадэль жыцця са смакам Евангелля".

### Заганы сучаснай эпохі

Першы з васьмі раздзелаў энцыклікі – "Цені замкнёнага свету" – сканцэнтраваны на шматлікіх заганах сучаснай эпохі: на маніпуляванні і дэфармацыі такіх паняццяў, як дэмакратыя, свабода, справядлівасць; на эгаізме і абыякавасці да супольнага дабра; на перавазе рыначнай логікі, што грунтуецца на пошуку выгады і на культуры адмаўлення; на беспрацоўі, расізме, беднасці; на няроўнасці правоў і іх невыкананні, што выліваецца ў нявольніцтва, гандаль людзьмі; на "арэчаўленні" жанчын, іх гвалтаванне і змушэнне да аборту; на гандлі чалавечымі органамі (10-24). Папа падкрэслівае, што гаворка ідзе пра глабальныя праблемы, якія патрабуюць глабальных дзеянняў. Ён асуджае таксама "культуру муроў", каторая, сеючы страх і самотнасць, спрыяе распаўсюджванню мафіі (27-28).

### Салідарна адказныя за будаўніцтва грамадства

У якасці адказу на многія з пералічаных "ценяў" энцыкліка прапануе прыклад Добрага Самараніна. Яму прысвечаны другі раздзел дакумента – "Чужынец на дарозе", у якім Папа Францішак сцвярджае, што ў хворым грамадстве, каторае адварочваецца ад болю і застаецца "недасведчаным" у справе клопату пра слабых і ўразлівых (64-65), усе мы пакліканыя праяўляць блізкасць да іншага (81), пераадольваючы перадузятасць і асабістыя інтарэсы. Усе мы з'яўляемся салідарна адказнымі за будаўніцтва грамадства, здольнага аб'ядноўваць, інтэграваць і суцяшаць тых, хто пакутуе (77). Любоў будуе масты, і мы "створаны для любові" (88), – нагадвае Папа, заклікаючы найперш хрысціян бачыць Хрыста ў аблічы кожнага адкінутага (85).

### Духоўны рост вызначаецца любоўю, таксама і да чужынцаў

Здольнасць любіць у яе "ўніверсальным вымярэнні" (83) разглядаецца і ў трэцім раздзеле энцыклікі – "Задумваць і стварaць адкрыты свет". Пантыфік заклікае "выходзіць па-за межы саміх сябе", каб знаходзіць у іншых "умацаванне быцця" (88), адкрываючыся на бліжняга згодна з дынамізмам любові, якая штурхае да "ўніверсальнага адзінства" (95). Францішак падкрэслівае, што духоўны рост чалавечага жыцця вызначаецца любоўю, якая заахвочвае шукаць дабра для іншага чалавека (92-93). Ён нагадвае пра неабходнасць ахоўваць і паважаць сям'ю з яе "першаснай і неад'емнай выхаваўчай місіяй" (114), бо менавіта ўнутры яе зараджаюцца пачуцці салідарнасці і братэрства.

Нікому нельга адмаўляць у праве на годнае жыццё, і паколькі правы не маюць межаў, ніхто не можа быць адкінуты, незалежна ад таго, дзе ён нарадзіўся (121). З гэтага пункту гледжання Пантыфік заклікае падумаць пра "этыку міжнародных адносін" (126), таму што кожная краіна належыць і чужынцам. Тым, хто мае патрэбу, і выхадцам з іншых месцаў нельга адмаўляць у дабротах. Такім чынам, Папа нагадвае пра першаснасць прынцыпу ўніверсальнага прызначэння даброт адносна натуральнага права на прыватную ўласнасць (120).

Асобная ўвага надаецца пытанню знешняй запазычанасці дзяржаў: не аспрэчваючы абавязку яе выплаты, Святы Айцец выказвае пажаданне, каб гэтае патрабаванне не ставіла пад пагрозу эканамічны рост найбольш бедных краін і іх забяспечанасць сродкамі да існавання (126).

### Прымаць, абараняць, інтэграваць мігрантаў

Тэме міграцыі часткова прысвечаны другі раздзел энцыклікі і цалкам – чацвёрты: "Сэрца, адкрытае на ўвесь свет". Пантыфік заклікае прымаць, абараняць, інтэграваць і спрыяць развіццю мігрантаў з іх "змучанымі жыццямі" (37), што праходзяць ва ўцёках ад войнаў, пераследу, стыхійных бедстваў, несумленных гандляроў. Справядлівай раўнавагай для краін, якія прымаюць мігрантаў, будзе абарона правоў грамадзян і забеспячэнне прыняцця і падтрымкі мігрантаў (38-40). Папа пералічвае асобныя "жыццёва важныя меры рэагавання" на ўцёкі ад "глыбокіх гуманітарных крызісаў": павялічыць колькасць і спрасціць працэдуру атрымання візаў; адкрыць гуманітарныя калідоры; гарантаваць бежанцам прытулак, бяспечнасць і першасныя паслугі; даць магчымасць працы і адукацыі; спрыяць уз'ядналенню сем'яў; абараняць непаўналетніх; забяспечыць рэлігійную свабоду. Падкрэсліваецца асаблівая важнасць глабальнага кіраўніцтва міграцыяй, якое б рэалізоўвала маштабныя доўгатэрміновыя праекты ў імя салідарнага развіцця ўсіх народаў (129-132).

### Задача палітыкі – абараняць фундаментальныя правы чалавека

"Найлепшая палітыка" – менавіта так гучыць назва пятага раздзела – увасабляе, на думку Святога Айца, адну з найбольш каштоўных формаў чалавекалюбства, таму што служыць усеагульнаму дабру (180) і ўсведамляе важнасць народа як адкрытай супольнасці, гатовай да дыскусій і дыялогу (160). Ёй супрацьпастаўляецца "папулізм", які ігнаруе законнасць паняцця "народ" і дабіваецца кансэнсусу, каб падпарадкаваць яго ўласным інтарэсам (159). Найлепшая палітыка, заўважае Папа, ахоўвае працу – "неад'емнае вымярэнне сацыяльнага жыцця", імкнучыся забяспечыць кожнага чалавека магчымасцю для развіцця сваіх здольнасцей (162). Эфектыўная стратэгія барацьбы з беднасцю не абмяжоўваецца ўтрыманнем тых, хто мае патрэбу, але намагаецца спрыяць іх развіццю ў духу салідарнасці і субсідыярнасці (187). Задача палітыкі – знайсці рашэнне аднасна ўсяго, што парушае фундаментальныя правы чалавека: сацыяльнай ізаляцыі; гандлю чалавечымі органамі, зброяй і наркотыкамі; сексуальных злоўжыванняў; нявольніцкай працы; тэрарызму і арганізаванага злачынства. Папа Францішак заклікае канчаткова вынішчыць гандаль людзьмі – "ганьбу чалавецтва", і голад, які таксама з'яўляецца злачынствам, бо харчаванне – "неад'емнае права" чалавека (188-189).

Патрэбная палітыка, сканцэнтраваная на годнасці чалавека і непадпарадкаваная фінансам, бо "рынак сам па сабе нічога не вырашае": гэта даказалі "кровапраліцці", справакаваныя фінансавымі спекуляцыямі (168), – адзначае Святы Айцец. У гэтым святле асаблівую важнасць набываюць народныя рухі: сапраўдныя "патокі маральнай энергіі", яны павінны быць часткай грамадства. Тады можна будзе перайсці ад палітыкі ў інтарэсах бедных да палітыкі саміх бедных і разам з беднымі (169).

Яшчэ адно пажаданне, выказанае ў энцыкліцы, датычыць рэформы ААН: ва ўмовах панавання эканамічнага вымярэння задачай ААН бачыцца канкрэтызацыя паняцця "сям'я нацый" і праца на карысць усеагульнага дабра, выкараненне беднасці і абарона правоў чалавека. Нястомна звяртаючыся да "перамоваў, сяброўскай падтрымкі і арбітражу", ААН павінна пашыраць моц права (173-175).

### Жыць культурай сустрэчы з усімі

З шостага раздзела – "Дыялог і сацыяльнае сяброўства" – вынікае канцэпцыя жыцця як культуры сустрэчы з усімі, у тым ліку з перыферыямі свету і з карэннымі народамі, таму што "ад усіх можна нечаму навучыцца і ніхто не бескарысны" (215). Папа Францішак заклікае да адраджэння "цуду ветлівасці", якое называе "зоркай у цемры", "вызваленнем з жорсткасці, страху і рассеянай спешнасці", што пераважаюць у сучасным свеце (222-224).

### Смяротнае пакаранне павінны быць адмененае ва ўсім свеце

Сёмы раздзел – "Маршруты новай сустрэчы" – утрымлівае разважанні Папы аднасна каштоўнасці міру – "рамяства", у якім кожны павінен браць удзел (227-232). З ім цесна звязана прабачэнне: Папа нагадвае, што трэба любіць усіх без выключэння. Пры гэтым любіць прыгнятальніка – значыць дапамагчы яму перамяніцца і не дапускаць далейшага ўціску бліжніх (241-242). Прабачэнне не азначае беспакаранасць, гэта справядлівасць і памяць, таму што прабачыць – не значыць забыць, але адмовіцца ад разбуральнай моцы зла і помсты. У сувязі з гэтым Святы Айцец заклікае памятаць памылкі Халакосту, атамных бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі, расавага пераследу і масавых забойстваў, бо гэта дазваляе падтрымліваць жывым агонь калектыўнай свядомасці. Нельга забываць і пра атрыманае дабро (246-252).

Міру Пантыфік супрацьпастаўляе вайну – "пастаянную пагрозу", увасабленне "адмаўлення ўсіх правоў", "заняпаду палітыкі і чалавецтва", "ганебнай капітуляцыі перад сіламі зла". Папа падкрэслівае, што сёння ядзерная, хімічная і біялагічная зброя паражае шмат нявінных людзей, таму больш немагчыма нават думаць пра "справядлівую вайну": ад вайны трэба рашуча адмовіцца. Абсалютная ліквідацыя ядзернай зброі з'яўляецца "маральным і гуманітарным імператывам". Сродкі, якія выдаткоўваюцца на ўзбраенне, лепш накіраваць на заснаванне Сусветнага фонду барацьбы з беднасцю (255-262). Пантыфік адназначна выказваецца наконт смяротнага пакарання: яно непрымальнае і павінна быць адмененае ва ўсім свеце (263-269). Адначасова ён нагадвае пра неабходнасць паважаць "святасць жыцця" (283), улічваючы, што сёння асобныя катэгорыі чалавецтва – ненароджаныя, бедныя, людзі з абмежаванымі магчымасцямі, састарэлыя – "здаецца, успрымаюцца прыдатнымі для прынясення ў ахвяру" (18).

### Шлях міру паміж рэлігіямі магчымы

Нарэшце, восьмы раздзеле – "Рэлігіі на службе братэрству ў свеце" – Папа закранае праблему тэрарызму, сцвярджаючы, што яна абумоўленая не рэлігіяй, а памылковымі інтэрпрэтацыямі рэлігійных тэкстаў, а таксама палітыкай голаду, беднасці, несправядлівасці, прыгнёту (282-283). Папа Францішак выказвае перакананне, што шлях міру паміж рэлігіямі магчымы. Для гэтага неабходна забяспечыць рэлігійную свабоду – фундаментальнае права ўсіх вернікаў (279).

Энцыкліка ўтрымлівае таксама разважанні аднасна ролі Касцёла: яна не адсоўвае сваю місію ў сферу прыватнага, і хоць не займаецца палітыкай, аднак не адмаўляе палітычнага вымярэння жыцця, надае ўвагу ўсеагульнаму дабру, клопату пра ўсебаковае развіццё чалавека згодна з прынцыпамі Евангелля (276-278).

Нарэшце, Папа Францішак цытуе "Дэкларацыю аб братэрстве паміж людзьмі, міры ў свеце і агульным суіснаванні", падпісаную 4 лютага 2019 г. у Абу-Дабі, заклікаючы, каб у імя чалавечага братэрства міжрэлігійны дыялог быў прыняты за шлях, супрацоўніцтва – за стыль паводзін, узаемнае пазнанне – за метад і крытэрый дзейнасці (285).

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# ПАЗНАВАЙКА

У гэтым нумары разам з Пазнавайкай даведаешся пра жанчыну, жыццё якой - прыклад таго, што шчырая малітва верніка будзе абавязкова пачутая Госпадам, і тады слабыя стануць моцнымі, тыя, хто ў роспачы - поўнымі светлых надзей і нават бясплодныя на працягу многіх гадоў муж і жонка - шчаслівымі бацькамі.

**Каб добра выканаць заданні, прачытай Першую кнігу Царстваў 1-2.**

**1.** У даўнія біблейскія часы жыла жанчына па імені Ганна. Яна вельмі любіла Бога. У Ганны быў муж Элкан. Але яны не маглі мець дзяцей, і гэта непакоіла іх.

Аднойчы Ганна і Элкан вярталіся пасля асаблівага набажэнства. У храме Ганна малілася аб тым, чаго яна хацела больш за ўсё на свеце. Ганна паабяцала, калі ў яе народзіцца сын, аддаць яго Богу на служэнне. Святар Ілій у храме сказаў ёй: «Бог выканае тваю просьбу».

**Паглядзі як Ганна шчыра малілася Богу, і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.**



**2.** Праз некаторы час Гасподзь выслухаў просьбу Ганны і ў яе нарадзіўся сын і назвала яго Самуіл. Ці ведаеш, што азначае гэтае імя? Калі выпішаш па парадку ўсе літары з жоўценькіх лісточкаў на дрэве, атрымаеш адказ.




**3.**



Ганна прысвяціла свайго сына Самуіла на служэнне Богу. **Паглядзі як гэта адбывалася і размалюй згодна з колерам.**



**4. 1 лістапада** Касцёл святкуе ўрачыстасць усіх святых. А хто такія святыя і як далучаюцца да іх ліку? Прапануем прачытаць разам з бацькамі **разважанне кс. Яна Твардоўскага "Святы".**

Хто такі святы? Складанае слова. Калі мы гаворым "мудрая бабуля" – гэта лёгка зразумець. Бабуля можа прышыць гузік, зрабіць рукавічку з адным пальцам, прыгатаваць ялавічыну, замкнуць на ключык грошы ў скарбонцы.

Што значыць Святы?

Толькі адзін Пан Бог ведае, хто з'яўляецца святым. Дзіця ведае прынамсі трох святых: Мікалая, які на святы Божага Нараджэння прыходзіць з падарункамі, Юзафа, які ў бэтлеемскай стаенцы чувае каля малога Езуса, пад вялікаю зоркаю ў небе. Ведае яшчэ матулю, якая таксама святая, бо не пра сябе, а пра дзіцятка дбае. Заўсёды святым з'яўляецца той, хто не ўдае з сябе святога.

*(Пераклад з польскай мовы Ганны Шаўчэнка)*

**5. 2 лістапада** — **успамін усіх памерлых вернікаў.** У гэты дзень разам з бацькамі памаліся абавязкова за ўсіх памерлых, асабліва за тых, за каго ніхто не моліцца.

## Малітва за памерлых

Божа, міласэрны Пане, дай душам слугаў Тваіх месца ў небе, благаслаўлёны супакой і яснасць Твайго святла. Пане, выслухай ласкава нашыя малітвы за душы слугаў Тваіх, за якіх мы молімся, просячы, каб Ты прыняў іх у супольнасць сваіх святых. Учыні, просім Цябе, Пане, каб душы слугаў Тваіх, ачышчаныя ад сваіх правінаў, атрымалі прабачэнне і вечны спачынак. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Дваццацігоддзе Віцебскай парафіі

**25 верасня катэдральная парафія Езуса Міласэрнага адзначыла свой юбілей. Менавіта ў гэты дзень дваццаць гадоў таму ў Віцебску яна была зарэгістраваная.**

**Аксана Нядвецкая**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*




Урачыстая св. Імша з нагоды юбілею парафіі адбылася ў пятніцу вечарам. На пачатку ўрачыстасці кс. пробашч Валерый Орсік прывітаў прысутных і прадставіў запрошаных святароў. Парафіяне вельмі рады былі бачыць каля алтара сваіх былых пробашчаў: кс. каноніка Андрэя Аніскевіча – дырэктара Caritas Віцебскай дыяцэзіі і кс. Рамана Мурзіча – пробашча з Параф'янава. Акрамя іх у Літургіі ўдзельнічалі святары з Віцебска, Лепеля, Лынтупаў, Ваўкалаты, Канстанцінава. Цэлебраваў святую Імшу біскуп Алег Буткевіч.

Падчас казання біскуп Алег успомніў гісторыю парафіі і падзякаваў усім, хто дапамагаў у пабудове касцёла і служыў на карысць супольнасці Езуса Міласэрнага. Яго Эксцэленцыя выказаў словы падзякі свайму папярэдніку былому ардынарыю Віцебскай дыяцэзіі біскупу на пенсіі Уладзіславу Бліну, бо менавіта праз яго намаганні паўстала гэта парафія і быў пабудаваны касцёл.

У часе святой Імшы 12 вернікаў катэдральнай парафіі прынялі сакрамант бежмавання.

Напрыканцы ўрачыстасці парафіяльная рада павіншавала ўсіх са святам і падзякавала біскупу Алегу і былым пробашчам за працу на карысць супольнасці. Вернікі, што прынялі бежмаванне, таксама выказалі падзяку.

Пробашч парафіі кс. канонік Валерый Орсік яшчэ раз павіншаваў усіх з 20-годдзем і выказаўся адносна ўмення радавацца поспехам іншых, дзяліцца радасцю і разам у ёй прабываць. Кс. Валерый падзякаваў біскупу Алегу, запрошаным святарам, сёстрам законным, літургічнай службе, цырыманімайстару кс. Алегу Зямчонку, катэдральнаму вікарыю, а таксама парафіяльнаму хору і хору з Браслава на чале са спадарыняй Інай Сапун за цудоўны спеў падчас св. Літургіі.

Пасля св. Імшы можна было прайсці ў парафіяльную кавярню і пазнаёміцца з фотавыставай, прысвечанай юбілею парафіі.



## Гісторыя парафіі

**22 кастрычніка 2000 г.** была адпраўлена першая св. Імша для вернікаў парафіі Езуса Міласэрнага ў касцёле св. Барбары (катэдральным на той момант). Прысутнічала 56 чалавек.

**16 лістапада 2000 г.** парафія Езуса Міласэрнага атрымала дазвол на пабудову часовай капліцы.

**25 снежня 2000 г.** капліцу асвяціў біскуп Уладзіслаў Блін.

**3 сакавіка 2001 г.** першым пробашчам парафіі стаў кс. Дарыюш Кубіца, SDS.

**30 чэрвеня 2001 г.** у парафіі адбылася першая біскупская візітацыя.

**12 верасня 2004 г.** кс. біскуп асвяціў пляцоўку, а ў сярэдзіне кастрычніка 2004 г. гарадскія ўлады далі канчатковы дазвол на будаўніцтва новай святыні.

Кансэкрацыя касцёла Езуса Міласэрнага адбылася **10 кастрычніка 2009 г.** у межах святкавання 10-годдзя існавання Віцебскай дыяцэзіі. Літургію, падчас якой адбывалася асвячэнне, узначальваў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Марцін Відавіч.

**18 чэрвеня 2011 г.** катэдра з касцёла св. Барбары была перанесеная ў касцёл Езуса Міласэрнага. Урачыстую Літургію ў новай катэдры ўзначаліў прадстаўнік Папы Бэнэдыкта XVI кардынал Робэр Сара, старшыня Папскай рады "Cor Unum".

Важнай датай для нашага касцёла з'яўляецца дзень **18 студзеня 2014 г.**, калі катэдра атрымала свайго біскупа. 23 лістапада 2013 г. Папа Рымскі Францыск прызначыў кс. Алега Буткевіча новым біскупам Віцебскім. Абрад кансэкрацыі 18 студзеня правёў Апостальскі Нунцый Клаўдыё Гуджэроці, асістэнтамі выступілі арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч. На ўрачыстасці было шмат вернікаў і святароў з іншых дыяцэзій, прысутнічалі прадстаўнікі свецкіх уладаў, праваслаўнай царквы, журналісты.

У чэрвені 2019 г. пробашчам парафіі стаў кс. канонік Валерый Орсік, які да гэтага часу ўзначальваў парафію Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы. Вікарый парафіі – кс. Алег Зямчонак.

У супольнасці працуюць сёстры-служабнічкі Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганна Зачатай.



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – Б; 3 – В; 4 – Б; 5 – В; 6 – Б; 7 – Б; 8 – А; 9 – В; 10 – В

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу: *363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу: *363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

**Увага!**

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5221

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.10.2020 г. у 08.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь